ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

# Каталіцкі ВЕСНІК

№7 (76) ліпень 2017 год

CATHOLICNEWS.BY

## Біскуп Алег Буткевіч наведаў парафію ў Дрысвятах

Стар. 7

## Сястра Люцына Вонс: “Камп’ютар дзяцей не прытуліць...”



Стар. 8-9

## Дзе плавіцца золата?



Стар. 4

## Цэнтр “Светач” у Бягомлі адзначыў першую гадавіну сваёй працы



Стар. 3

## Увага! Працягваецца падпіска на другое паўгоддзе 2017 года!

**Кошт падпіскі:**
на месяц – **90 капеек**,
на 3 месяцы – **2 рублі 70 капеек**,
на 5 месяцаў – **4 рублі 50 капеек**.
Зрабіць гэта можна ў любым аддзяленні “Белпошты”.

**Наш падпісны індэкс – 63783**

**Дарагія браты і сёстры! Падпісваючыся на нашу газету, вы дапамагаеце нам абвяшчаць Евангелле, расказваць людзям пра Хрыста і яго Касцёл.**



# Папа Францішак прызначыў жанчыну на важную пасаду ў Ватыкане



**Папа Францішак 8 ліпеня 2017 года прызначыў трох новых падсакратароў для Дыкастэрыі па служэнні інтэгральнаму развіццю чалавека, якой кіруе кардынал Пітэр Тарксан.**

**Ян Мойсік**, *Ватыканскае радыё*

Адным з іх цяпер з'яўляецца 69-цігадовая італьянка Фламінія Джаванэлі. Яна стала намеснікам сакратара Камісіі па справах міграцыі, правоў чалавека, аховы асяроддзя і барацьбы з беднасцю. Такім чынам, яна стала трэцяю асобай паводле іерархіі ў гэтай ватыканскай установе.

Высокія пасады ў Ватыкане займалі дагэтуль толькі лічаныя жанчыны. Фламінія Джаванэлі па прафесіі палітолаг. У Ватыкане яна ўжо працавала ў якасці намесніка сакратара Папскай рады "Iustitia et Pax" ("Справядлівасць і мір"), якая, аднак, была менш уплывовай, чым створаная 17 жніўня мінулага года Дыкастэрыя па служэнні інтэгральнаму развіццю чалавека.

На працягу апошніх 10-ці гадоў колькасць жанчын, якія працуюць у Ватыкане, павялічылася з 13 да 19 працэнтаў ад агульнай колькасці супрацоўнікаў і павольна, але пастаянна расце. Першая жанчына была прынятая на працу 1 лютага 1915 г. Ёй была італьянка Анна Пэццолі, якая займала пасаду памочніка ў так званай "Floreria Apostolica" – структуры, адказнай за афармленне і дызайн інтэр'ераў і месцаў, дзе праводзяцца сустрэчы з Папам.



# Браты-капуцыны Ігар Колзун і Максім Варанюк прынялі дыяканскае пасвячэнне ў базіліцы Святой Фары ў Бары

**9 ліпеня два браты з беларускай супольнасці меншых братоў-капуцынаў Ігар Колзун і Максім Варанюк прынялі дыяканскае пасвячэнне ў базіліцы Святой Фары ў Бары (Італія).**

**бр. Аляксандр Астравушка OFMCap**

Калі ласка, не здзіўляецеся з імя капякункі базілікі. Святая Фара – гэта старажытная французская манахіня, настаяцельніца бэнэдэктынскага жаночага манастыра ў Фармуцье, недалёка ад Парыжа. Два яе браты таксама з'яўляюцца святымі. У гонар гэтай святой і была названая базіліка, у якой адбылася ўрачыстая святая Імша з удзяленнем дыяканскага пасвячэння.

Пасля духоўных рэкалекцый, што падрыхтавалі нашых братоў да прыняцця першай ступені святарскага пасвячэння (дыяканату), у базыліцы Святой Фары ў Бары адбылася святая Імша, канцэлебраваная кусташам беларускай Кустодыі братам Алегам Шэндам OFMCap, на якую прыехалі шматлікія госці не толькі з Італіі, але таксама з Беларусі, Польшчы і Латвіі.

Пасвячэнні ўдзяліў мансіньёр Мікеле Сэчыа, біскуп дыяцэзіі Тэрамо – Атры (Італія). Падчас гаміліі мансіньёр Мікеле звярнуў увагу на тое, што абвяшчэнне Евангелля – гэта не толькі частка літургічнага абраду, але частка жыцця таго, хто яго абвяшчае. Гэта дар, які найперш перамяняе таго, хто абвяшчае Добрую Навіну, а пазней і тых, хто яе слухае. Вельмі важным з'яўляецца правільная інтэрпрэтацыя Святога Пісання, якая павінна выплываць з уласнага ўспрымання Бога і сучаснай рэчаіснасці, у каторай мы сёння жывём і каторая не з'яўляецца прымітыўнай маралізацыяй вернікаў.

Біскуп таксама падкрэсліў, што трэба асцерагацца прызвычайвання да паслуг, якія выконваюцца, бо гэта вядзе да манатоннасці, да недахопу энтузыязму і веры ў тое, што мы робім. Дапамогай у змаганні з такімі цяжкасцямі маюць быць штодзённая малітва і заклік да Духа Святога кожны раз, як дыякан выконвае сваю паслугу. Важным у гэтым, паводле біскупа, з'яўляецца наследаванне Маці Божай, Якая была найбольш уважлівым слухачом і найлепшым інтэрпрэтатарам слоў свайго Сына (Ян 2, 1-5).

Варта звярнуць увагу, што разам з бр. Ігарам і бр. Максімам прынялі дыяканскае пасвячэнне яшчэ пяць чалавек. Гэта якраз колькасць першых сямі дыяканаў у гісторыі Касцёла, выбраных праз хрысціянскую супольнасць у Ерусаліме і пасвечаных праз Апосталаў (Дз. 6, 1-7).

У першыя дні пасля пасвячэння браты з Беларусі мелі магчымасць выказаць удзячнасць за асаблівае пакліканне ў санктуарыі святога айца Піа ў Сан-Джавані Ратонда, выконваючы дыяканскую службу пры тым самым алтары, ля якога Эўхарыстыю ажыццяўляў святы капуцын, а таксама ў велічнай базіліцы святога Мікалая, служачы на святой Імшы пры ягоных рэліквіях.

Падрыхтоўка да святарства кандыдатаў з Беларусі ад 2014 года адбываецца ў Італіі ў межах супрацоўніцтва капуцынскіх правінцый Паўднёвай Італіі з беларускай Кустодыяй (CIFIS).

Жадаем, каб нашыя нованапасвечаныя дыяканы былі такімі ж адважнымі і вернымі слугамі Хрыста і Яго Касцёла, як і іх папярэднікі.

# Перэгрынацыя фігуры Маці Божай Фацімскай у глыбоцкай парафіі

**12 ліпеня а 17.30 вернікі парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім віталі перад святыняй фігуру Маці Божай Фацімскай, якая пілігрымуе па Віцебскай дыяцэзіі.**

**Марына Сінкевіч**, *тэкст і фота*

Словы прывітання скіраваў вікарый парафіі кс. Іван Кароткін.

Урачыстай працэсіяй увайшоўшы ў касцёл, Панну Марыю віталі прадстаўнікі сем'яў і дзеці. А 18-й гадзіне распачалася св. Імша. У гаміліі кс. Іван звярнуў увагу на пастаць Марыі як нашу Маці: "Маці – гэта самы блізкі чалавек, які заўсёды клапоціцца пра сваіх дзяцей. Маці радуецца, калі радуюцца дзеці, пакутуе, калі дзеці церпяць. Марыя з'яўляецца нашай Маці, Яна ведае кожнага з нас і за кожнага перажывае".

Апоўначы адбылася св. Імша, якую ўзначаліў віцэдэкан Глыбоцкага дэканата і пробашч парафіі ў Дзеркаўшчыне кс. Андрэй Кулік. Пасля Літургіі адбылася працэсія з Маці Божай і свечкамі ў руках.

Вялікая колькасць людзей у гэтыя дні наведала касцёл, каб ушанаваць Найсвяцейшую Панну. Шмат гадзін ружанцовай малітвы, марыйныя спевы, святыя Імшы, чуванне – усё гэта было на хвалу Божай Маці.

14 ліпеня а 17-й гадзіне адбылося развітанне з Найсвяцейшай Паннай, Якая накіравала свой далейшы шлях у Удзела.





# Цэнтр “Светач” у Бягомлі адзначыў першую гадавіну сваёй працы

**Гэты Цэнтр аказвае дапамогу залежным ад алкаголю і наркотыкаў. Працуе ён пры каталіцкай парафіі Езуса Хрыста – Валадара Сусвету.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст і фота*

Святкаванне пачалося са святочнай Імшы ў капліцы. Набажэнства ўзначаліў Генеральны вікарый Віцебскай дыяцэзіі ксёндз Францішак Кісель. На ім прысутнічалі як мясцовыя вернікі, так і госці з Полацка, Мёраў, Пастаў, Глыбокага, Мінска, Гродна і іншых месцаў нашай краіны, што прыбылі на святкаванне. У Імшы бралі ўдзел пробашч парафіі ў Бягомлі айцец Тадэвуш Кавальскі, кс. Алег Півавар з Ваўкалаты, айцец Ян Хернік з Удзела.

Падчас Імшы ксёндз Францішак удзяліў вернікам сакрамант канфірмацыі. Звяртаючыся да прысутных, Генеральны вікарый заклікаў іх памятаць пра ахвяру Езуса Хрыста, бо Ён праліў сваю кроў за кожнага з нас. Езус называе нас сваімі сябрамі, аддае Сябе кожнаму чалавеку, таму і мы мусім адказваць Яму сваёй любоўю.

“Мы павінны імкнуцца да абсалютнага дабра, якім ёсць Бог, – падкрэсліў святар. – Але, на жаль, у жыцці ёсць і іншыя рэчы, якія нас прыцягваюць”.

Ксёндз Францішак прывёў прыклад палёту касмічнага карабля. Ён ляціць па зададзенай траекторыі, але яго шлях можа адхіляцца, калі апарат трапляе ў поле гравітацыі іншага цела. Так і чалавек, калі падпадае пад дзеянне нейкіх спакусаў, то можа стаць на шлях бязбожнага жыцця. Таму сваёй ласкай Бог імкнецца злучыць нас з Сабою, захаваць ад граху. Толькі чалавек не павінен супраціўляцца Божай волі. Таму і сакрамант канфірмацыі, які мы атрымліваем, павінен умацоўваць нашы духоўныя сілы, адкрываць нашы сэрцы на дары Святога Духа. Каб змяніць гэты свет, патрэбна ў першую чаргу змяніць сябе. І свет тады пачне таксама мяняцца.

Пасля Імшы ў Бягомльскім Доме культуры адбыўся ўрачысты сход, прысвечаны гадавіне працы Цэнтра. Кіраўнік “Светача” Уладзімір Шчэпін і яго жонка Тацяна, якая ва ўсім дапамагае свайму мужу, распавялі прысутным пра выніке першага года працы, пра перашкоды і складанасці, з якімі давялося сутыкнуцца, падзяліліся планамі на будучыню.

Прэзентацыя спалучалася з канцэртнымі нумарамі. На свяце выступілі ансамбль народнай песні “Сакавіца”, Алег Дабравольскі з Барысава, які з’яўляецца салістам і кіраўніком ансамбля “Браткабеларус”. Спадар Алег ужо больш за дваццаць гадоў не ўжывае алкаголю і сваім прыкладам паказвае, што жыць паўнавартасным жыццём можна і без гарэлкі. Нават песню пра гэта напісаў. У канцы прэзентацыі Тацяна і Уладзімір Шчэпіны выканалі хрысціянскую песню, якую яны абралі гімнам “Светача”.

Пасля абеду адбылася тэматычная тэрапеўтычная праца ў групе “Залежнасць – сямейная хвароба”, якую правёў гештальт-тэрапеўт з Мінска Вячаслаў Цырлін. Ён сам у свой час прайшоў праз праблему залежнасці ад алкаголю, паспяхова з ёй справіўся і, атрымаўшы неабходныя веды, зараз дапамагае іншым. На яго думку, у залежнасць часцей за ўсё трапляюць тыя людзі, якія ў дзяцінстве адчулі дэфіцыт любові і ласкі, асабліва ў тых сем’ях, дзе бацькі злоўжываюць алкаголем. Тады гэты недахоп ласкі і цяпла чалавек знаходзіць на дне бутэлькі.



*Пасадка “дуба цвярозасці”*

Напрыканцы мерапрыемства яго ўдзельнікі ўрачыста пасадзілі “дуб цвярозасці”. А потым былі шашлыкі, песні пад гітару, і ўсё гэта праходзіла весела, без кроплі гарэлкі.

Што ж, пажадаем Цэнтру новых поспехаў у яго нялёгкай, але такой неабходнай працы.

# Кранальныя моманты з жыцця парафіі Св. Марыі Магдалены ў Новалукомлі



**17 чэрвеня ў нашай парафіі адбылася вельмі значная і радасная падзея: мы сустракалі Маці Божую з Фацімы!**

Парафіяне выйшлі насустрач Валадарцы Нябеснай і з урачыстай працэсіяй вялі яе ад пачатку горада да самай святыні, што, як заўжды, была з густам упрыгожаная і патанала ў кветках у гонар самай доўгачаканай і любай госці. Колькі шчырых слоў падзякі, прабачэння і просьбаў узносілася да Фацімскай Маці Божай! Колькі кветак было ля Яе падножжа! Колькі спеваў гучала ў Яе гонар! Усе, хто падыходзіў да любай Матулі, з любоўю, пашанай і надзеяй спаглядалі ў Яе вочы і, стоячы з малітваю на каленях, чакалі ад Яе разумення, падтрымкі і дапамогі. Са слязьмі падыходзілі многія: і дарослыя, і дзеці, бо магчымасць быць так блізка да Маці Божай вельмі рэдкая і кранальная. Дзверы нашага касцёла былі адчыненыя з 17-га да 20-га чэрвеня, і тыя, хто толькі жадаў, маглі ў любы час прыйсці да Панны, каб зноў і зноў бачыць Яе, самнасам пабыць і паразмаўляць з Ёю. Але гэтыя дні праляцелі імгненна.

І вось 20 чэрвеня – развітальная св. Імша з Маці Божай Фацімскай. Вельмі сумна было ўсім ад таго, што адбывалася. Яшчэ цяжэй парафіяне перажывалі гэты дзень таму, што была развітальная святая Імша і з нашым пробашчам ксяндзом Аляксандрам Баранам. Вельмі цяжка ўзгадваць, як, з якой шчырасцю выказваліся яму словы падзякі, пажаданні на далейшае служэнне Пану Богу! А дзякаваць святару сапраўды ёсць за што, бо ксёндз Аляксандр за гэтых шэсць гадоў, якія прамчаліся для нас усіх вокамгненна, не толькі стаў для ўсіх сапраўдным айцом, які падтрымае, дапаможа, навучыць, дасць добрую параду, але і зрабіў шмат чаго для нашай парафіі.

За час яго побыту наша святыня змяніла сваё аблічча. Ажылі бакавыя алтары, была зроблена капліца Маці Божай Нястомнай Дапамогі, з’явілася выдатная разьба “Апошняя вячэра”, а над галоўным алтаром – Божае вока. Усяго, што з’явілася, проста не пералічыць…

Намаганнямі ксяндза Аляксандра была адрамантаваная закрыстыя, таксама стала годнай для жыцця і плябанія, у якой ёсць канцылярыя і клас для заняткаў катэхезай. За гэтых шэсць гадоў значна змяніўся і выгляд прыкасцельнай тэрыторыі: вакол кветкі, фігура Маці Божай Фацімскай, што з узвышша глядзіць на нас і мае нашу парафію пад сваёй апекай. Неверагоднымі намаганнямі святара нарэшце з’явіўся каталіцкі крыж пры ўездзе ў горад, які сведчыць, што ў Новалукомлі жыве Бог. Трэба адзначыць, што ва ўсходняй частцы нашай краіны, дзе паўсюль бачныя праваслаўныя крыжы, наш крыж, бадай, адзіны.

Мы дзякуючы ксяндзу Аляксандру навучыліся разумець Божае слова не толькі праз казанні, прамоўленыя святаром, але і праз умела, творча і прыгожа створаныя дэкарацыі, якія абнаўляліся на кожнае свята, у кожны перыяд літургічнага года.

За ўсё гэта мы, парафіяне, шчыра дзякавалі святару 20 чэрвеня. І, верагодна, нездарма святая Імша развітання з Маці Божай Фацімскай была і развітаннем з ксяндзом Аляксандрам, бо мы ўпэўненыя, што Нябесная Валадарка выслухае нашыя просьбы моцна трымаць нашага паважанага ксяндза за руку, весці па нялёгкім шляху святарскіх паслуг і захінаць ад няшчасцяў.

А яшчэ хочацца адзначыць тое неверагодна ўзрушальнае!.. Калі развітальная святая Імша падышла да канца, ксёндз Аляксандр блаславіў нас, і мы, узняўшы вочы і паглядзеўшы ў акно, убачылі на небе вялікую і вельмі яркую вясёлку, над якой праз хвіліну з’явілася яшчэ адна. Ці то не знак ад Пана Бога?..

*Парафіяне парафіі Св. Марыі Магдалены ў Новалукомлі*

# Дзе плавіцца золата?



*Залаты лом*

**Аксана Нядвецкая**

Я даўно збіралася паразважаць пра святых і святасць. Гэты артыкул планавалася напісаць раней, але па розных прычынах праца над ім адкладалася. Спачатку я хацела паведаміць табе, чытач, як аднойчы перагортвала літаратурны агляд і сярод дзесяці найлепшых мастацкіх твораў усіх часоў і народаў знайшла "Исповедь" Аўрэлія Аўгусціна (калі цікава, агляд рабіў сучасны расейскі пісьменнік, публіцыст і тэлевядоўца Дзмітрый Быкаў, меркаванне якога наконт мастацкай каштоўнасці я вельмі паважаю). Пасля я магла б распавесці, як крыху спазніліся на маім шляху такія патрэбныя словы св. Яна Паўла II: "Патрабуйце ад сябе, нават калі ніхто не патрабуе ад вас". І напрыканцы планавала расказаць, якое асаблівае і асобнае месца сярод усіх святых займае для мяне святы Францыск. Але пра ўсё гэта як-небудзь іншым разам. Зараз мы будзем плавіць і каваць, каваць і плавіць, прапальваць газетную старонку трапным словам і даставаць з сябе ўсё самае лепшае, схаванае глыбока ўнутры.

Адразу хачу папярэдзіць: не трэба шукаць прамой лагічнай сувязі паміж часткамі тэксту. Яе няма тут. Але сувязь пачуццёвая, асацыятыўная, зразумелая, хутчэй, сэрцам, чым розумам павінна быць. І мы з табой, чытач, паспрабуем яе адчуць.

***"...Ты... больше, чем сокровище, ты дороже солнца – ты стоишь всей Крови Христовой! Как же мне не взять твою душу – чистое золото, – чтобы поместить её в горнило кузницы; обработать её огнём и молотом, сделать из этого первозданного золота великолепное ожерелье и предложить моему Богу, твоему Богу?"***

*Св. Хасэмарыя Эскрыва, з Прадмовы да кнігі "Кузница"*

Мне часта сустракаюцца католікі, якія баяцца гаварыць пра святасць у адносінах да сябе (маю на ўвазе асабістую магчымую святасць кожнага з нас). Адзін з іх, які зараз піша гэтыя радкі, так шчыра моліцца да святога Антонія, калі нешта згубіць, мае хлеб святой Агаты ў кожнай сумачцы, носіць віно на святога Яна, свечку на святога Блажэя, захапляецца пакорай адных святых і мудрасцю іншых і так баіцца задаць сабе прамыя пытанні: "Калі, Аксана, аддасі свайму Пану ўсё, што маеш: сваю свабоду, памяць, розум і волю? Калі згадзішся, каб кіраваў табою паводле волі сваёй, а не тваёй?"

*Не трэба мяне плавіць! Я падабаюся сабе кавалкам некранутага золата. Вялікі Майстар хай займецца іншай справай!*



*Плаўка золата ў майстэрні*

Зайшлі аднойчы з дзецьмі ў кавярню. Яны хутка выбралі сваю піцу і марозіва, я ж перагортваю меню і ніяк не магу вызначыцца. Калі з піцай яшчэ больш-менш зразумела, то соус не магу падабраць. Сальса, песта ці тар-тар? Сальса або песта? Афіцыянтка чакае. І тут мімаволі ўспомнілася мне, як у дзяцінстве мы з сястрой збіралі чырвоныя парэчкі ў бабуліным двары. Дарослыя займаліся сваімі справамі, а мы знаходзілі сабе занятак самі. Назбіраем парэчак, сястра сходзіць па цукар, паціскаем усё разам у сваіх місачках – і вось вам і соус, і варэнне, і дэсерт, нават не памятаю, як мы гэта называлі. І не мылі мы гэтыя парэчкі!

Я ўсміхнулася:

— Мне без соуса, девушка!

*Не трэба рабіць з мяне штосьці надзвычайнае! У Вялікага Майстра хапае дыядэм, караляў і каштоўных бранзалетаў. Крыху паплаў і зляпі з мяне які-небудзь сярэдні пярсцёнак!*

Мая двухгадовая дачка палюбіла казку пра Пеўніка і Коціка-брацік. Яна патрабуе, каб я расказвала гэту казку раз за разам. Нават калі мне нецікава. Калі хачу спаць, а яна не хоча. Яшчэ мая маленькая любіць, калі мы разыгрываем казку па ролях. Мне заўсёды дастаецца Коцікбрацік. І я 25 разоў адбіраю ў Лісічкі Пеўніка, 25 разоў прыводжу яго ў хатку і 25 разоў паўтараю яму: "Не выглядывай в окошко, там Лисичка тебя ждёт, заберёт тебя от меня, унесёт за тёмные леса, за синие горы…" Але мой непаслухмяны Пеўнік выглядвае і выглядвае ў сваё акенца, а я зноў і зноў выратоўваю яго.

— Мама, давай играть! Ты – Котик-братик!

Маленькая, давай хоць раз пабуду Пеўнікам! Пеўнік ў мяне лепш атрымаецца…

— Ты Котик-братик, мама!

*Мы так не дамаўляліся! Колькі можна?! Хутчэй адлівай у форму і атрымлівай свой шэдэўр!*

Неяк выпадкова выдаўся вольны час, і я вырашыла прысвяціць яго патрэбным справам, якія даўно чакалі і ад гэтага зрабіліся тэрміновымі. Трэба было заехаць у два месцы і па дарозе назад забраць са школы дачку-першакласніцу.

Выйшла на прыпынак, стаю, чакаю аўтобус. І тут падбягае да мяне дзяўчынка гадоў пяці-шасці.

— Тётя, где моя мама?

— Где твоя мама? Не знаю, малышка. А где она должна быть?

Дзяўчынка хвалявалася. Я ўзяла яе за руку і пачала распытваць. Мама пайшла глядзець расклад (руху аўтобусаў) і не вярнулася. Можа, яна зайшла ў аўтобус, а дзяўчынка не паспела? Тады мама хутка вернецца, думаю я. Вакол нас сабраліся людзі. Жанчына ў чырвоным паліто прапаноўвае выклікаць міліцыю. Я ж бачу патрэбны мне аўтобус і разумею, што магу пакінуць чужую мне дзяўчынку з гэтай жанчынай і паспець па сваіх неадкладных справах. Але дзяўчынка сціскае маю руку, а не жанчыны ў чырвоным, таму працягваю размову:

— Из какого ты дома? У тебя есть папа, бабушка, братик? Могу отвести тебя домой.

Дзяўчынка паказала на суседні дом. Аднак існаванне таты, бабулі і брацiка адмовіла. Ёсць толькі мама, якая пайшла глядзець расклад (на гэтым прыпынку, дарэчы) і не вяртаецца ўжо хвілін пятнаццаць. Ад слова "міліцыя" дзяўчынка пачынае плакаць.

— Не бойся, малыш! Мамы просто так не теряются. Она сейчас тебя тоже ищет. Давай стоять на одном месте, пока нас не найдут!

Мама сапраўды хутка знайшлася. Аказваецца, яна пакінула дзяўчынку глядзець мульцікі, а сама выйшла на пяць хвілін паглядзець расклад. Калі вярнулася, дачкі не было (тая спалохалася і выбегла ўслед). І пакуль мы чакалі маці на прыпынку, яна шукала малую па суседніх кватэрах.

У той дзень я не паспела па сваіх тэрміновых справах, што, зразумела, у гэтай гісторыі зусім не галоўнае.

*Нарэшце! Усё сплаўлена, адліта і адшліфавана. Але чаму каструля?! Сучасная пасудзіна з высакаякаснай сталі. Добра, карыстайся, Вялікі Майстар! Не дыядэма, вядома, але рэч у гаспадарцы патрэбная.*

Вось мы з табой, чытач, і прайшлі разам з нашым прыдуманым героем шлях ад поўнага нежадання падпарадкоўвацца волі Вялікага Майстра да поўнага яе прыняцця. І яна, гэта воля, аказалася нечаканай для нашага героя. Дарэчы, золата плавіцца хутчэй, чым сталь: пры 1064 С яно ўжо "здаецца", а сталь можа "трымацца" аж да 1535 С!

І яшчэ. Не хвалюйся, чытач! Аўтар гэтага тэксту хоць часам чалавек нясмелы і нерашучы, аднак непапраўны аптыміст і даўно ўжо перастаў разлічваць толькі на сябе. Таму ўсе пытанні, якія павінен задаць сабе адказны, удумлівы католік, ён абавязкова задасць сабе, і ўсе словы, якія патрэбна сказаць Пану Богу, ён калі-небудзь скажа, і месца на газетнай паласе для гэтага не спатрэбіцца.

## Падзяка ксяндзу Паўлу Кнурэку

Шчыра дзякуем, паважаны ксёндз-пробашч Павел, за 16 гадоў адданага душпастырскага служэння ў лынтупскім касцёле, на працягу якіх Вы дзялілі з намі нашы радасці і нашы беды! Дзякуем за кранальныя малітвы, за мудрыя і шчырыя навучанні. Вы былі чулым і спагадлівым, настойлівым і цярплівым, іранічным і патрабавальным. Ваша энергія і нястомнасць не давала заснуць у нашых сэрцах агню высокай веры. Пан Бог надзяліў Вас разнастайнымі талентамі, гарманічна спалучыўшы якасці пастыра, багаслова і філосафа. Вы аб'ядналі вакол Божага храма дзяцей і моладзь, дарослых і сталых людзей, паглыбляючы наш духоўны досвед, адкрываючы прысутнасць Добрага Бога сярод нас грэшных.

Развітваючыся з Вамі, просім прабачыць за нашу людскую няўдзячнасць і нястрыманасць, за неабдуманыя словы і ўчынкі, якімі, напэўна, крыўдзілі Вас.

Насенне любові, дабра і даверу<br>
Няслі Вы штогод нам праз Божую веру.<br>
За гэта ўдзячнасць ад нас Вы прыміце,<br>
Цяпло нашых сэрцаў з сабою вазьміце,<br>
І ў час напаткалага нас развітання<br>
Найлепшыя нашы Вам пажаданні!

Поспехаў Вам на святарскай ніве, моцнага здароўя, узнёслых думак, адданых і ўдзячных вернікаў! Няхай святыя апекуны Пётр і Павел моляцца за Вас перад Божым тронам, а Святы Дух хай натхняе і ўзмацняе Вас! Няхай Пан Езус дапамагае ў добрых пачыннях, а Маці Божая хай прытуляе да свайго сэрца! Няхай міласэрны Бог аддзячыць Вашым бацькам за добрага сына!

***Вернікі парафіі Св. Апостала Андрэя, м. Лынтупы***

# Свет вакол мяне

Люблю і цаню жыццё і сябе ў ім. Прайшоўшы дастаткова доўгі шлях па-іншаму, чым у маладосці, гляджу на складаны і супярэчлівы свет вакол мяне. Роспач ад незаменных страт, выпрабаванне хваробамі, вераломства блізкіх людзей – нічога не абышло мяне бокам. Але ці ёсць на свеце чалавек, якога знянацку не пацалаваў бы боль, нечакана не дагнала б радасць? Дзякуй Богу, побач сябры і родныя, мая касцельная супольнасць!



Як верніца ведаю, што Божы Провід кіруе мною і вядзе зямнымі шляхамі. Духоўнае жыццё – важная частка маёй сутнасці. Гэта роздум над Святым Пісаннем, таямніца споведзі, збаўчая сіла Найсвяцейшага Сакраманту. Лучнасць з Богам напаўняе духоўнай энергіяй, змякчае сэрца, пазбаўляе крыўды.

Поры года так гарманічна зліваюцца з каталіцкім календаром. Перабіраючы пацеркі ружанца, крочу з зімы ў вясну, з лета ў восень, ад Божага Нараджэння да Велікодных свят, ад майскіх спеваў у гонар Найсвяцейшай Панны да сцен будслаўскага Санктуарыя ў пілігрымцы, ад жніўеньскіх асвячэнняў зёлак і пладоў зямлі з набажэнствамі на Перамяненне Пана і Унебаўзяцце Маці Божай да Дня Усіх Святых са шчырымі малітвамі да Божай міласэрнасці і знічкамі на магілках родных, блізкіх, знаёмых.

А як жа добра ў летні дзень пракаціцца на ровары цераз пшанічнае поле! Плывуць насустрач зялёна-жоўтыя хвалі, лунае над імі лёгкай аблачынкай пылок ад збажыны ў квецені. У цёплым паветры пахне хлебам.

Потым хораша адпачыць у альтанцы, змайстраванай леснікамі на ўскрайку лесу. Ветрык гойдае квітнелыя травы, гуляе ў карункавых лісточках папараці. Шум дрэў супакойвае і расслабляе. Удыхаю непаўторны пах жывіцы і зерня, што спее, думаю пра хуткаплыннасць чалавечага жыцця, пра немагчымасць злавіць вецер, прыпыніць час, спазнаць справы і шляхі Пана Бога, Які падарыў нам гэты свет…

*Нэля Лось,*
*парафія Св. Андрэя Апостала, м. Лынтупы*

# Нашы святары

Як і дзве тысячы гадоў назад, Езус кліча за сабой выкасардных душы маладых людзей, каб зрабіць іх сваімі паслядоўнікамі і слугамі, якія б працягвалі на зямлі місію свайго Настаўніка. Пяць чыстых і адданых сэрцаў маёй Лынтупшчыны, нашых сучаснікаў, прысвяцілі сябе служэнню паўсюднаму Касцёлу. Гэта кс. Ян Пугачоў, кс. Уладзімір Шымковіч, кс. Яўген Міхайлаў, кс. Антоній Лагунёнак, дыякан Алег Хмылко.

О Езу, атулі сваёй ласкай нашых святароў і пакліканых, аддалі ад іх спакусы і ўмацуй у вернасці і трываласці! Наша малітва ўзносіцца да неба з удзячнасцю за добрых і ахвярных працаўнікоў на Божай ніве, за нашых святароў.

*Нэля Лось,*
*парафія Св. Андрэя Апостала, м. Лынтупы*




# Ці далёка да Бога?

"Ці далёка да Бога?" – спытаеце Вы. Адкажу: "Не. Усяго 1000 км." Менавіта такую адлегласць пераадольваюць беларускія пілігрымы, якія ўжо трэці год едуць на роварах з Салігорска ў Чэнстахову. Мы не ведаем, каб хто-небудзь іншы з пілігрымаў Беларусі адважваўся пераадолець такі далёкі шлях на роварах.

Дзякуючы айцу Сабяславу, асноўнаму ініцыятару роварнай пілігрымкі, мы, група парафіян касцёла святога Францішка, вось ужо трэці год маем магчымасць пакутаваць і цярпець, маліцца і спяваць, смяяцца і весяліцца ў пілігрымцы да цудоўнага абраза Маці Божай.

У пілігрымцы ўдзельнічаюць людзі рознага ўзросту, паходжання і заняткаў. У некаторых – свае незвычайныя жыццёвыя гісторыі: нехта выжыў пасля аварыі, нехта вылечыўся ад цяжкіх хвароб…

Кожны дзень на працягу двух тыдняў пачынаецца і заканчваецца супольнай малітвай, кожны дзень мы ўдзельнічаем у святой Імшы, праводзяцца канферэнцыі. Зразумела, ёсць час на спевы, на хвалу Пана Бога і Яго Найсвяцейшай Маці.

Падчас пілігрымкі мы наведваем гістарычныя месцы: касцёлы, кляштары, замкавыя комплексы, музеі. Вельмі запамінальная была сустрэча з сястрой з кляштара святой Клары ў Скарынаве, нашай зямлячкай.

Усюды, дзе мы спыняемся на начлег, ці то на падворку ў намётах, ці ў санаторыі, ці ў кляштары, нас сустракаюць шчырыя і адкрытыя людзі, добразычлівыя гаспадары, якія атуляюць гасціннасцю і ўвагай.

Дарэчы, надвор'е нам не вельмі спрыяе: то невыносная спёка, калі асфальт проста прыклейваецца да колаў, то дождж, які, быццам здзекуючыся з адчайных галоваў, лье нам за каўнер, пранікае ў рукавы, дабіраецца да абутку, то навальніцы. Але гэта можна лічыць выпрабаваннем на шляху да святыні.

Галоўнае наперадзе: сустрэча з Багародзіцай – Маці Божай Чэнстахоўскай. Гэтага спаткання чакаюць усе пілігрымы, таму што ўсе нясуць у Санктуарый свае інтэнцыі і просьбы. Бо менавіта тут здараюцца цуды: людзі вылечваюцца ад цяжкіх хваробаў, узмацняюцца духоўна і фізічна. Доказ гэтаму – мыліцы пры алтары, інвалідныя вазкі, якія аказаліся больш непатрэбныя іх гаспадарам, бо яны атрымалі тут такое жаданае аздараўленне.

Тут пакінута шмат сімвалічных сэрцаў – вотаў, якія сведчаць пра адраджэнне чалавечага духу і вялікую ўдзячнасць людзей Маці Божай.

А ў канцы дня мы прымаем удзел у шматтысячным штовечаровым звароце да Маці Божай. Тысячы людзей узносяць да яе свае просьбы і малітвы. І так вольна, сяточна пачуваецца ў шматгалосым хоры беларускае слова!

Нашай краіне і кожнаму, хто ў ёй жыве, вельмі патрэбная апека Багародзіцы! Яна чакае сваіх дзяцей, каб адарыць патрэбнымі ласкамі.

Спадзяюся, я пераканала Вас у тым, што 1000 км – гэта не так ужо і далёка. Асабліва калі гэтую адлегласць складае шлях да Бога.

*Ганна Кляменя,*
*парафія святога Францішка, г. Салігорск*

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета "Каталіцкі Веснік"***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 10 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч***
***Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

### Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя*
*"Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Як рэагаваць на некаторыя выразы і словы святара падчас казання?



*Пінская міждыяцэзіяльная вышэйшая духоўная семінарыя імя Тамаша Аквінскага*

*"Як трэба рэагаваць вернікам, калі святар падчас казання ўжывае такія выразы, як "яно сабе", "я балдзею ад гэтага Евангелля", "халера ясна"? Да мяне прыязджала сяброўка з іншай парафіі і засталася пад вялікім уражаннем ад пачутага. "Хочацца пачуць нешта пра Бога, адпачыць на хвіліну ад сваіх штодзённых праблем, а тут зусім не пра Бога", – казала яна. І бывае мне вельмі крыўдна за парафію. Часта казанне складаецца з жартаў і папрокаў. Ці так павінна быць? Як тады вучыць дзяцей, што казаць новым людзям, якія толькі пачынаюць хадзіць у касцёл?"*

*Ірына*

**На пытанне адказвае а. Аркадзь Куляха OCD, Міждыяцэзіяльная вышэйшая духоўная семінарыя імя святога Тамаша Аквінскага ў Пінску:**

– Паважаная Ірына! Шчыра дзякую Вам за адважнае пытанне, якое датычыць святароў і абвяшчэння Божага Слова ў часе святой Імшы ды іншых літургічных цэлебрацый.

Касцёл клапоціцца пра падрыхтоўку святароў-прапаведнікаў. Казанне, або гамілія – гэта свайго кшталту паведамленне ад Бога, якое святар перадае ўдзельнікам літургіі з мэтаю дапамагчы слухачам у ажыццяўленні паўсюднага паклікання веравызнаўцаў Езуса Хрыста да святасці, з'яднання з Богам ды адказу на дар паклікання. Дзеля таго, каб згаданае паведамленне ад Бога было дзейсным, святарам неабходная адпаведная асабістая падрыхтоўка для прапаведавання, давер Духу Святому і выкарыстанне атрыманых ад Бога дароў. Назіраючы ўзрастанне ў пакліканні кандыдатаў на святарства ў Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Пінску, з радасцю заўважаю, што Бог, Які кліча за сабою юнакоў, дае ім адпаведныя інтэлектуальныя, духоўныя і маральныя здольнасці, а таксама запал да поўнага прысвячэння жыцця Богу і людзям. Адным словам, на нашай беларускай зямлі кандыдаты на святарства, абраныя Богам, надзеленыя дарамі, неабходнымі для будучага служэння, у тым ліку і для абвяшчэння Божага Слова. За гэты дар варта часта дзякаваць Богу і прасіць, каб не пераставаў выбіраць і адпаведным чынам фарміраваць тых, каго Ён сам захоча паклікаць.

### Казанне – праяўленне любові святара да вернікаў

Зададзенае пытанне пацвярджае адкрытасць удзельнікаў літургічных цэлебрацый на дзеянне Божага Слова і глыбокае жаданне слухаць яго, разважаць над ім і жыць паводле яго. Добрае казанне – значная дапамога ў гэтым працэсе. Пастыры Касцёла клапоцяцца пра адпаведную падрыхтоўку кандыдатаў на святарства, выбіраючы і фарміруючы кампетэнтных і руплівых выкладчыкаў розных прадметаў, у тым ліку гамілетыкі, г. зн. навуковай дысцыпліны, якая вучыць мастацтву прапаведавання Божага Слова. У часе семінарыйнай фармацыі клерыкі не толькі атрымліваюць неабходныя веды па канкрэтных прадметах, але перадусім вучацца малітве, медытацыі і любові да Бога ды людзей, якім у будучыні будуць служыць. Казанне і ёсць праяўленнем любові святара да вернікаў. Святы Айцец Францішак у Апостальскай Адгартацыі Evangelii gaudium сцвярджае, што гамілія з'яўляецца крытэрыем ацэнкі блізкасці і здольнасці сустрэчы пастыра са сваім людам. Гэтак жа можна ахарактарызаваць кожнае казанне. Блізкасць фарміруецца ў любові і на ёй будуецца. Прыкладам і ўзорам добрага прапаведніка для святароў з'яўляецца сам Езус Хрыстус, Які з дапамогай слова перадаваў праўду пра найглыбейшыя таямніцы Бога і чалавека. Да Яго прыходзілі натоўпы, каб слухаць, хоць былі і тыя, хто, не жадаючы слухаць і разумець, казаў, што словы Хрыста складаныя. Тут варта ўзгадаць пра падмурак паспяховасці навучання Хрыста: Ён перадаваў слухачам тое, што атрымаў ад свайго Айца, трываючы ў сталай лучнасці з Ім.

### Малітва аб добрым казанні і яго разуменні

Добрыя, мудрыя, прыгожыя казанні, якія паўстаюць у малітве, прываблiваюць людзей, натхняюць на высакародныя чыны, паказваюць узнёсласць хрысціянскага паклікання і прыгадваюць пра абавязак прыносіць плады любові ў камуніі з Езусам Хрыстом. Такія казанні ўплываюць і на святара, які, рыхтуючыся да прапаведавання, асэнсоўвае сваё духоўнае жыццё, а таксама адносіны з людзьмі ў святле Божага Слова.

У некаторых касцёлах існуе звычай маліцца перад казаннем. Я сам некалькі разоў сустрэўся са спевам пасля чытання Святога Евангелля, у якім сабраныя на Эўхарысты заклікалі Духа Святога дапамагчы святару добра прамаўляць, а вернікам зразумець, прыняць змест Божага Слова і выдаць яго плён. Такая супольная малітва паказвае на сувязь паміж прапаведнікам і слухачом, якія знаходзяцца пад уздзеяннем аднаго і таго ж Духа Святога. Пажадана, каб узгаданая ўзаемная малітва святара і вернікаў адно за аднаго працягвалася і пасля святой Імшы і стала формай падрыхтоўкі да наступнага казання.

Мае значэнне не толькі змест казання, але і яго форма. Ва ўзгаданай вышэй адгартацыі Папа Францішак заўважае, што ў гаміліі праўда спалучаецца з прыгажосцю і дабрынёй, а гэта ў сваю чаргу патрабуе выбару адпаведнай лексікі, якая была б мастацкім словам, аднак даступным для ўсіх слухачоў. Тут не ідзе гаворка пра чыстае красамоўства, але пра пераказванне Добрай Навіны прыгожымі словамі.

Такім чынам, прапаведнік павінен пазбягаць прамаўлення ад імя Бога нелітаратурнай мовай. Канешне, дапушчальныя, а ў некаторых выпадках нават неабходныя пэўныя формы асабістай экспрэсіі. Аднак ад святара чакаюць адпаведнага ўзроўню, які не абмяжоўваецца гутарковым стылем. Сказанае вышэй – гэта заданне для кожнага святара, якое патрабуе асабістых намаганняў і шмат працы над самім сабою.

### Адказнасць святароў і вернікаў за якасць казанняў

Памылковым было б чакаць ад святара, што ён у сваім прапаведаванні будзе гаварыць толькі пра духоўнае ў адарванасці ад зямной рэчаіснасці, у якой жыве сучасны чалавек. Карл Барт сказаў, што сапраўдны прапаведнік у адной руцэ трымае Святое Пісанне, а ў другой газету, беручы пад увагу, што Бог дзейнічае ў гісторыі і прамаўляе праз розныя падзеі, а Яго Слова сустракаем не толькі ў Біблії, але таксама ў тым, што вакол нас.

Складана, не маючы адпаведных дадзеных, ацэньваць казанні святара, пра якія напісана ў пытанні, таму пакіну іх без каментара. Думаю, у першую чаргу трэба маліцца за святароў, а вернікам, што сустракаюцца з неадпаведна падрыхтаванымі прапаведнікамі, раю пасля асабістай малітвы шчыра паразмаўляць з імі на тэму зместу і формы Божага Слова, якое яны абвяшчаюць. Гэтая парада належыць як да "добрых", так і да "дрэнных" казанняў.

Святар пакліканы быць айцом, якому можна давяраць нават найцяжэйшыя праблемы і справы. Вернікі цэняць душпастыраў, якія ўмеюць цярпліва слухаць таксама тады, калі размова ідзе пра балючыя пытанні. Здаровая крытыка з боку вернікаў можа стаць для святара каштоўнай дапамогай у яго асабістай дарозе да святасці. Калі хтосьці баіцца рэакцыі святара ў часе размовы, то можа асабіста перадаць яму пісьмо, у якім будуць заўвагі ці прапановы. Формы тут могуць быць розныя, але найважнейшае, каб заўсёды дбаць пра праўду ў любові і міласэрнасць, што ў сваю чаргу не дазваляе пакрыўдзіць ці зняважыць іншую асобу.

Духоўная семінарыя вучыць і заклікае будучых святароў ужо ў часе фармацыі маліцца за тых, да каго Бог іх пашле. Звяртаюся да чытачоў з просьбай пра малітву за кандыдатаў на святарства і за нас, святароў, каму Хрыстос даверыў вялікую, важную, прыгожую і складаную місію прапаведавання Добрай Навіны ўсім людзям!

## Падзяка святару

**Пахвалёны Езус Хрыстус!**

Праз маю любімую газету "Каталіцкі Веснік" хачу выказаць падзяку нашаму пробашчу парафіі святой Ганны ў в. Мосар **ксяндзу Марату Казлоўскаму** за падрыхтоўку майго ўнука Дзмітрыя да споведзі і прыняцця Першай Святой Камуніі!

Наш ксёндз Марат – добразычлівы, энергічны, цудоўны святар, адкрыты людзям, адказны, не пазбаўлены пачуцця гумару, чалавек вялікай душы, інтэлігентны, самаахвярна служыць Богу і людзям і карыстаецца заслужаным аўтарытэтам парафіянаў, выдатны псіхолаг, знаходзіць патрэбныя словы для кожнага чалавека, мае асабісты падыход да моладзі, дзяцей, міністрантаў. Яго размова з маім унукам напоўніла юнацкую душу радасцю, цеплынёй, прагай да веры. Хлопец кожны дзень старанна рыхтаваўся і з нецярплівасцю чакаў чарговай сустрэчы з ксяндзом Маратам.

Я ўдзячная добраму Богу і Найсвяцейшай Панне Марыі за дар жыцця і паклікання кс. Марата, за тое, што кожны з нас мае шчасце ведаць яго, з яго вуснаў чуць слова Божае, і з яго рук мой унук і прыняў Першую Камунію.

Жадаю ксяндзу Марату, каб Усемагутны Бог і надалей адорваў яго ўсімі патрэбнымі ласкамі, а Маці Божая атуляла сваёй мацярынскай апекай!

*З удзячнасцю і павагай,*
***Часлава Лаўрыновіч***

# Біскуп Алег Буткевіч наведаў парафію ў Дрысвятах



*Выступае народны фальклорны калектыў "Вярба"*

**Афіцыйная візітацыя віцебскага ардынарыя адбылася ў нядзелю, 9 ліпеня.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст і фота*

Каб прывітаць свайго пастыра, усе вернікі выйшлі з храма. Па традыцыі іерарха сустрэлі каля галоўнай брамы з караваем. Біскуп акрапіў вернікаў святой вадой і запрасіў прайсці ў святыню.

## Касцёл пабудавалі маладыя хлопцы

Перад пачаткам святой Імшы гісторык, краязнаўца і касцельная актывістка Эмілія Шавэла распавяла біскупу і прысутным вернікам гісторыю касцёла і парафіі ў Дрысвятах. І хаця расповяд гэты заняў крыху больш за паўгадзіны, ніхто не стаміўся слухаць спадарыню Эмілію, настолькі жыва і цікава яна пра ўсё расказвала.

У 1514 годзе кароль Польшчы і Вялікі князь Літоўскі Жыгімонт I Стары фундаваў будаўніцтва касцёла на востраве Замак, дзе знаходзілася тады і паселішча. У 1519-1522 гадах адмыслова для дрысвяцкага касцёла быў напісаны абраз "Пакланенне Трох каралёў", або, як яго яшчэ называюць, "Маці Божая Дрысвяцкая". Гэта была праца знакамітага нямецкага мастака Ганса Эльвінга.

Пасля таго, як у выніку вайны будынак касцёла згарэў, ён быў пабудаваны ў 1725 годзе на новым месцы, на беразе возера Дрысвяты, там, дзе стаіць і зараз. На бераг возера перамяшчаецца і само паселішча. Храм прастаяў амаль дзвесце гадоў і быў разбураны ў Першую сусветную вайну, бо непадалёк ад Дрысвятаў праходзіла лінія фронту.

Пасля заканчэння польскасавецкай вайны і заключэння Рыжскай мірнай дамовы Дрысвяты трапілі ў склад Другой Рэчы Паспалітай. Адразу ўздымаецца пытанне пра аднаўленне касцёла. У 1927–1929 гадах храм збудавалі на тым самым месцы паводле праекта маладога архітэктара Лявона Вітан-Дубейкаўскага. Ён выкарыстаў новую на той час тэхналогію: будынак узвялі з брусоў, якія злучаліся між сабой пазамі без моху. Працавалі зусім маладыя хлопцы, але зрабілі вельмі добра: будынак выдатна захаваўся да нашых дзён.

Падчас Другой сусветнай вайны храм дзейнічаў. Дзейнічаў ён і пасля вайны. Але перыяд ваяўнічага атэізму яго не пашкадаваў: у 1963 годзе касцёл зачынілі, а ксяндза Юзафа Козела выслалі ў іншую парафію. Пачалося рабаванне і знішчэнне святыні. Выдзерлі падлогу, з якой людзі рабілі загародкі для свіней, а студэнты, што прыязджалі на бульбу, палілі часткі інтэр'еру ў вогнішчах.

Аднаўленне храма пачалося толькі ў 90-х гадах мінулага стагоддзя, калі сюды прыйшлі працаваць айцы-салятыны Альфрэд Пяхота і Зянон Шчонхар. За пятнаццаць гадоў былі зроблены ўнутраны рамонт касцёла, збудаваная званіца, званы для якой падарыў фундатар з Польшчы, адраманатаваныя вежа і дах святыні.

Айцец Юзаф Блажэй, які прыйшоў сюды на служэнне ў 2006 годзе, распачынае рамонт плябаніі, а закончыў гэта ксёндз Віталь Галец у 2009 годзе. Пасля тут працавалі ксёндз Юры Жаўняровіч і айцец Часлаў Халгас, якія зрабілі вонкавы рамонт храма і агароджы вакол яго. Зараз тут служыць ксёндз Генадзь Ляўкоў, каторы з'яўляецца, можна сказаць, сваім святаром, бо нарадзіўся і вырас зусім побач, у Відзах. Ксёндз Генадзь шмат робіць для добраўпарадкавання прыкасцельнай тэрыторыі. Ужо зараз яна вельмі прыгожая, але ў планах святара зрабіць гэта месца яшчэ прыгажэйшым.

## Заўсёды трэба чакаць Езуса

У сваім слове да вернікаў біскуп Алег Буткевіч узгадаў часы ваяўнічага атэізму і заклікаў прысутных захоўваць і перадаваць сваю веру наступным пакаленням, каб больш ніколі гэтыя страшныя падзеі не паўтараліся. Зараз вера адкрытая і не пераследуецца, але ў сучасным свеце вельмі шмат розных спакусаў, якія адцягваюць чалавека ад сапраўдных каштоўнасцяў.

Іерарх нагадаў, што Езуса Хрыста праследавалі не бязбожнікі, а якраз людзівернікі. Фарысеі і святары выдалі яго на смерць за тое, што Ён называў сябе Божым Сынам, а гэта яны лічылі блюзнерствам. "Езус Хрыстус уваскрос у нядзелю, і ў нядзелю абяцаў зноў прыйсці ў гэты свет, – адзначыў біскуп Алег, – вось чаму не трэба працаваць у нядзелю. Ніхто не ведае, калі будзе гэты дзень, таму трэба быць гатовым. А то раптам прыйдзе Збаўца, а вы ў агародзе капаецеся", – дадаў іерарх з усмешкай, падкрэсліўшы, што гэта не трэба ўспрымаць толькі як жарт.

Закрануў біскуп і тэму юбілеяў сёлетняга года, на якія ён вельмі багаты. Прычым гэта юбілеі як добрыя, так і не вельмі. Сярод іншага мы адзначаем 500 гадоў першай друкаванай беларускай кнігі, 500-годдзе пачатку Рэфармацыі, будзе адзначацца стагоддзе кастрычніцкага перавароту. Каталіцкі Касцёл святкуе ў гэтым годзе стагоддзе аб'яўлення Маці Божай у партугальскай Фаціме. Маці праз пастушкоў папярэджвала свет пра навярнанні, але людзі не паслухалі, што і прывяло да рэвалюцыі, а потым і да Другой сусветнай вайны.

Біскуп заклікаў вернікаў адказна ставіцца да сваёй працы, рабіць усё на хвалу Божую. Ён прывёў прыпавесць пра будаўніка, які шліфаваў камень на вялікай вышыні. Калі ў яго спыталі, навошта ён так стараецца, бо з зямлі ж гэтага не ўбачаць, той адказаў, што Бог з неба ўбачыць.

Яшчэ ардынарый прывёў прыклад пра савецкія "Жыгулі" і японскую "Таёту". Гэтыя дзве маркі аўтамабіляў рабіліся з аднаго металу, па падобнай тэхналогіі, рабіліся людзьмі з падобнымі рукамі, падобнай адукацыяй, але розніца паміж машынамі была вельмі вялікай. А ўсё таму, што рабочыя па-рознаму ставіліся да сваёй працы.

Напрыканцы свайго слова біскуп пажадаў людзям берагчы веру і захаваць яе для наступных пакаленняў.

## Юшка для біскупа і гасцей свята

Пасля святой Імшы вернікі мелі магчымасць сустрэцца са сваім пастырам і абмеркаваць з ім асабістыя пытанні. Ды і сама абстаноўка заахвочвала: праходзіла спатканне на прыкасцельным пляцы, дзе проста перад уваходам у храм быў пастаўлены стол з пачастункамі. А яшчэ парафіяне частавалі ўсіх гасцей юшкай, якую зварылі непасрэдна тут, каля касцёла.

У гэты ж час гурт "Вярба" радаваў усіх сваімі песнямі, што гучалі і на беларускай, і на польскай мовах. Спевы не абышліся без Эміліі Шавэла, каторая і тут брала самы актыўны ўдзел. А яшчэ трэба адзначыць, што ансамбль не толькі выступіў перад вернікамі, але і ўпрыгожыў сваім спевам Літургію.

Для мясцовых вернікаў прыезд біскупа стаў сапраўдным святам. Парафіянка Вольга Пяткевіч адзначыла: "Я студэнтка, вучуся ў Мінску, там хаджу ў маленькую каплічку. І калі я прыехала дадому і ўбачыла нашага біскупа Алега, то гэта для мяне стала радасцю і значнай падзеяй на маіх канікулах! Таксама гэта вялікае шчасце не толькі для мяне, але і для маёй сям'і. Таму мы разам з мамай і прыйшлі на гэту Імшу".

Вернікі запрасілі біскупа часцей бываць у іх храме, тым больш, што ён нарадзіўся і вырас непадалёк ад Дрысвятаў, у Браславе. А гэта яшчэ адна нагода для парафіян, каб ганарыцца сваім земляком.



*Пасля Імшы можна было і юшкі паспытаць, і з біскупам пагаварыць*

# Сястра Люцына Вонс: “Камп’ютар дзяцей не прытуліць...”



**Падчас летніх канікул пытанне дзіцячага адпачынку стаіць вельмі востра. Асабліва ў сельскай мясцовасці, дзе, у адрозненне ад горада, няма багатага “асартыменту” культурных і выхаваўчых мерапрыемстваў. Дык як жа арганізаваць вольны час дзетак найперш з карысцю для душы, а не для цела? Як “выцягнуць” са свету віртуальнага ў свет рэальны, дзе яшчэ, на шчасце, не забыліся, што такое шчырасць чалавечых зносін і дабрыня адкрытых сэрцаў?**

**Іна Сняжкова**

Адказы на гэтыя пытанні ведае сястра Люцына Вонс з парафіі Св. Андрэя Апостала ў Лынтупах. Вось ужо чатыры гады яна займаецца з мясцовымі школьнікамі ў прыкасцельным аратарыюме і ў любы час – ці гэта канікулы, ці сярэдзіна навучальнага года – шмат клапоціцца пра іх духоўнае выхаванне.

Пра сястру Люцыну мне неаднойчы расказвалі ўдзячныя ёй бацькі. Напрыканцы мая выпала выдатная нагода пазнаёміцца асабіста: пасля нядзельнай імшы ля аратарыума масава і весела святкавалі Міжнародны дзень дзіцяці. Мерапрыемства, арганізаванае с. Люцынай і валанцёрамі, сабрала больш за сотню хлопчыкаў і дзяўчынак самага рознага ўзросту з Лынтупаў і вёскі Палессе. Тэатральная сцэнка, конкурс малюнкаў, уручэнне грамат і падарункаў, рухомыя гульні на свежым паветры, салодкі стол – ці трэба гаварыць, колькі пазітыву ўсё гэта выклікала ва ўдзельнікаў!?

Да свята рыхтаваліся больш за месяц. Адчувалася, колькі ў яго ўкладзена часу і душы. Па-іншаму сястра Люцына не ўмее. Любую справу робіць на сумленне. А іх, гэтых спраў, так шмат!

Аратарыум св. Маці Тэрэзы з Калькульты (менавіта такая яго поўная назва) уяўляе сабой двухпавярховы будынак, у якім ёсць усё неабходнае для заняткаў з дзецьмі. Раней вельмі актыўную і плённую працу з падлеткамі тут праводзіла сястра Ева Бялецка.

Сёння аратарыум працуе пяць дзён на тыдзень па тры гадзіны. Тут дзейнічае шэраг гурткоў: тэатральны, танцавальны, кулінарны, музычны (ігра на гітары), вязальны, мастацкі ды іншыя. Ёсць такія гульні, як настольныя тэніс, футбол, хакей, більярд, спартыўная сцяна і іншыя, а таксама абсталяваная камп’ютарная зала. Звычайна тут збіраецца каля двухтрох дзясяткаў школьнікаў ад першага да адзінаццатага класа любога веравызнання. Па серадах да лынтупчан далучаюцца маленькія жыхары суседняй вёскі Палессе. Праходзяць тут і парафіяльныя сустрэчы дарослых вернікаў: дзейнічаюць суполкі “Новы вобраз парафіі”, “Біблійнае кола” і іншыя.

Каб уявіць, чым жыве аратарыум, дастаткова зазірнуць у фотаальбом – своеасаблівы дзённік, які вядзецца з 2014 года. У ім – дзясяткі здымкаў з подпісамі. Учытваюся.

*“Дзякуючы арганізацыі “Карытас” цэлы аўтобус дзяцей паехаў у Мінск. Дзеці пабывалі ў цырку. Усю дарогу сястра Люцына іграла і спявала з дзецьмі. Радасці дабавіў пікнік на свежым паветры”.*

*“Дзеці паехалі на школьным аўтобусе ў Паставы, каб прыняць удзел у конкурсе калляднай песні. Сястра Люцына падрыхтавала да ўдзелу ў конкурсе трох дзяўчынак. Агнэшка заняла другое месца, а Маргарыта з Каралінай трэцяе”.*

*“У аратарыуме адбыліся рэкалекцыі. Канферэнцыя кс. Паўла, прэзентацыя, праца ў групах і Крыжовы шлях былі найважнейшымі момантамі разважанняў сустрэчы з Богам. Усё падрыхтавала с. Люцына”.*

Што ні старонка – то маленькая гісторыя. Сумесны ружанец, дзяленне аплаткай, велікодныя спатканні ў школе, рэкалекцыі, дзіцячы летнік, адпачынак у Польшчы, конкурс нацыянальных батлеек, дыяцэзіяльныя дні моладзі і парафіяды, фэсты, тэатральныя і танцавальныя выступленні ў мясцовым Доме культуры, у школе і дзіцячым садку, самыя розныя мерапрыемствы ў лынтупскім “доме старцаў” (так называюць мясцовае аддзяленне круглаcутачнага знаходжання пажылых грамадзян)... І гэта толькі частка таго, што можна ўбачыць на здымках.

Гартаючы альбом, расказваючы пра кожнае мерапрыемства, сястра ўсміхаецца з уласцівай толькі дзецям шчырасцю, адкрытасцю, непасрэднасцю. Прызнаецца: у аўдыторыі, з якой даводзіцца працаваць, яна з часам толькі маладзее.

**Люцыне 40 гадоў. Яна нарадзілася ў старажытным Кракаве ў сям’і моцных вернікаў.**

– Мае бацькі заўсёды былі прыкладам таго, як трэба ставіцца да жыцця і Бога, расказвала сястра. – Аднак ні мяне, ні двух маіх братоў у касцёл хадзіць ніколі не прымушалі. Мы самі туды імкнуліся, шмат часу праводзілі ў суполках, на рэкалекцыях, многа вандравалі на канікулах. У маім доме заўсёды былі адчыненыя дзверы для сяброў: і дзяўчат, і хлопцаў. Таму для родных маё рашэнне пайсці ў манастыр, думаю, аказалася шокам і прыняць яго было няпроста. Аднак ніхто не адгаворваў, не казаў: нельга, не ідзі, што ты робіш? Найперш палохала невядомасць: як гэта будзе? У маёй сям’і ніколі не было манахіні ці святара. Безумоўна, бацькі перажывалі, што я не змагу рэалізаваць сябе як маці, жонка. Дарэчы, праз сем гадоў пасля мяне мой родны брат Кшыштаф стаў ксяндзом.

**Сястра Люцына ўспаміНала, што першыя думкі пра манастыр узніклі яшчэ ў дзяцінстве.**

– Я захаплялася манахіняй, якая выкладала ў мяне Катэхізіс, яе дабрынёй і міласэрнацю. Хутка зразумела: і я так хачу. Нікому не гаварыла, нават сабе ў гэтым было складана прызнацца. З часам жаданне нарастала. Калі на вуліцы сустракала манахіню, маё сэрца пачынала калаціцца з неймавернай хуткасцю. Калі ішла ў касцёл і там маліліся пра пакліканне да Божай службы, была ўпэўнена: гэта для мяне. Канчатковы выбар зрабіла пасля заканчэння школы. Мне быў 21 год. Моцна малілася, каб Усявышні адкрыў мне сэрца, падрыхтаваў. Ведала, што калі буду жыць паводле Божых думак, то буду шчаслівая. І калі прыняла канчатковае рашэнне, наступіў момант супакою, гармоніі. Адчула, што ўжо ніколі не буду адна. Толькі разам з Хрыстом.

Родным для Люцыны стаў манастыр сясцёр Служабнічак Багародзіцы Дзевы Марыі, галоўны дом якога знаходзіцца ў Дэмбіцы і які мае больш за 90 месцаў служэння ў свеце. Шэсць гадоў завочна вучылася ў Кракаўскай вышэйшай педагагічна-філасофскай школе Ignacianum. Працавала ў дзіцячых садках, як настаўнік у школе выкладала Катэхізіс.

Бог так кіраваў, што вакол часта з’яўляліся людзі з Беларусі, успамінае сястра. Яна сама напісала ліст з просьбай пры магчымасці накіраваць яе на працу ў нашу краіну. Чакаць давялося сем гадоў. У Лынтупы прыехала ў 2014-ым і ўсім сэрцам прыкіпела да гэтай мясцовасці.





**Сястра Люцына перакананая, што праца з дзецьмі самая цікавая, але і самая адказная.**

– Іх сэрцы адкрытыя і да болю шчырыя, – гаварыла сястра. – Яны ўвабіраюць усё, як губкі. Менавіта ў дзяцінстве фарміруюцца як асобы. Трэба вельмі шмат цярпення і ўнутраных сіл, каб здолець накіраваць іх на шлях веры, дабрыні, міласэрнасці. Асабліва калі ў сям'і ёсць вялікія праблемы і прыкладу браць няма з каго. Вельмі важна ў максімальнай ступені кампенсаваць тое, што не дадалі бацькі. Калі дзіця адчувае клопат, бачыць, што яго любяць, што яно патрэбнае, то абавязкова пераменіць свае погляды на многія рэчы.

**Сястра Люцына разам з сястрой Разаннай, якая таксама служыць у парафіі, шмат дапамагаюць хворым, дзецям-інвалідам, пажылым людзям. Амаль усе падрыхтаваныя творчыя нумары дзеці паказваюць у "доме старцаў".**

– Упапошні раз масава былі там на Вялікдзень, – расказвала с. Люцына. – Пагулялі з фарбаванымі яйкамі, зладзілі іншыя забавы. Спачатку пастаяльцы паставіліся да нас крыху насцярожана, а потым адкрыліся. Іх твары ажно прасвятлелі. Адзін мужчына напрыканцы падышоў і сказаў: "Сястра, я не памятаю, але я ўпэўнены, што рабіў гэта ў дзяцінстве. Вы так узрадавалі маё сэрца!.." Такая шчырая ўдзячнасць вельмі натхняе і мяне, і дзяцей. Для іх гэта важна – адчуваць, што яны стараюцца нездарма.

**Наступнай тэмай размовы сталі сучасныя праблемы адносін бацькоў і дзяцей.**

– Бяда сённяшняга дня – бясстрэсавае выхаванне, калі ўсё для дзяцей, калі яны маюць мінімум абавязкаў і атрымліваюць максімум усяго гатовага. У дарослым жыцці ўсё так проста не даецца. Яшчэ адна праблема: у дзяцей "электронныя" галовы. Тэлефоны і камп'ютары, не спрачаюся, патрэбныя, але ў меру. Яны настолькі ўраслі ў іх жыццё, што становіцца страшна. Страшна, што дзеці не ўмеюць адно з адным размаўляць, што яны часцей, апусціўшы вочы, пішуць нешта ў тэлефоне, чым усміхаюцца адно аднаму.

Мая галоўная задача, каб дзеці адчувалі радасць ад сустрэчы з сябрамі. Калі здарыцца бяда, калі ўзнікнуць праблемы, камп'ютар дзіця не прытуліць. Патрэбныя слова, пяшчота. У любой сітуацыі для кожнага стараюся быць не толькі настаўнікам, але і сябрам.

Падчас размовы сястра неаднойчы падкрэслівала, што ў адзіночку дабіцца поспеху немагчыма. Яна неймаверна ўдзячная за падтрымку ксяндзу Паўлу, Эльжбеце Хмылка, Міхаілу Вашкінелю, шматлікім валанцёрам з ліку мясцовых жыхароў, бацькам дзетак, якія наведваюць араторыум.

На летніх канікулах фотаальбом у араторыуме абавязкова папоўніцца яркімі і эмацыйнымі здымкамі. З 25 па 30 чэрвеня быў арганізаваны парафіяльны летнік для дзяцей, у праграме якога – паездка ў Браслаў, конкурсы і гульні, сустрэчы з цікавымі творчымі людзьмі і, несумненна, з Богам. У жніўні дзеткі паедуць на рэкалекцыі ў Шуміліна, а таксама на адпачынак у Польшчу.

***Калі рыхтаваўся гэты артыкул, лынтупскую парафію наведаў біскуп Алег Буткевіч. Пасля святой Імшы ён пабываў у араторыуме і быў прыемна ўражаны ўбачаным. І сястра Люцына, і школьнікі, якія падрыхтавалі яркія творчыя нумары, былі вельмі ўзрушаныя і ўзрадаваныя сустрэчай з іерархам.***

***Ён у сваю чаргу назваў араторыум унікальнай з'явай ва ўсёй Віцебскай дыяцэзіі і падзякаваў усім, хто клапоціцца пра духоўнае выхаванне мясцовых дзетак. У тым, што яно будзе працягвацца, можна не сумнявацца.***




# Што ты ведаеш пра Папу Францішка?



**Правер свае веды пра асобу Папы Францішка і паспрабуй правільна адказаць на пытанні новага тэсту "Каталіцкага Весніка".**

**1** Ці ведаеш, якім па ліку пасля святога апостала Пятра Папам Рымскім з'яўляецца Папа Францішак?



**А.** 266;
**Б.** 226;
**В.** 236.

**2** Манахам якога ордэна з'яўляецца Папа?

**А.** Ордэна капуцынаў;
**Б.** Ордэна езуітаў;
**В.** Ордэна салезіянаў.

**3** Колькі зараз гадоў Папу?

**А.** 80;
**Б.** 79;
**В.** 77;

**4** Дзе нарадзіўся Папа Францішак?



**А.** У Аргенціне;
**Б.** У Канадзе;
**В.** У Перу.

**5** Да абрання на пасад Святога Айца Папа насіў імя:

**А.** Кардынал Дзьёданэ Нзапалаінга;
**Б.** Кардынал Хорхе Марыя Берголіа;
**В.** Кардынал Ёзаф Ратцынгер.



**6** Які від спорту найбольш падабаецца Папу?



**А.** Футбол;
**Б.** Рэгбі;
**В.** Баскетбол.

**7** Прыгадай, калі Францішак быў абраны Папам?



**А.** 18 сакавіка 2014 года;
**Б.** 13 сакавіка 2013 года;
**В.** 16 сакавіка 2013 года.

**8** Якія словы з'яўляюцца дэвізам Святога Айца Францішка?



**А.** "Miserando atque eligendo" (Паглядзеў з міласэрнасцю і выбраў);
**Б.** "Totus Tuus" (Увесь твой);
**В.** "Cui Deus est, omnia sunt" (У каго ёсць Бог, у таго ёсць усё).

*Падрыхтавала*
***Ірына Радзевіч***

Правільныя адказы глядзі на стар. 12

# Каляндар на жнівень

**6 жніўня – урачыстасць Перамянення Пана.**

Гэтае свята звязваюць з цудам, якое Езус Хрыстус здзейсніў напрыканцы Свайго зямнога шляху перад трыма апосталамі – Пятром, Якубам і Янам. Хрыстус прывёў Сваіх вучняў на гару Табор і адкрыў, што Яму належыць пакутаваць за людзей, памерці на крыжы і ўваскрэснуць. Там Ён перамяніўся перад апосталамі: твар Яго зазззяў, а вопратка зрабілася асляпляльна белай. Два прарокі Старога Запавету – Майсей ды Ілля – з'явіліся Госпаду на гары і размаўлялі з Ім. А голас Бога Айца са светлага воблака сведчыў пра Боскасць Хрыста. Лічыцца, што на гары Табор Езус упершыню паказаў людзям сваю Боскую сутнасць. Вучні ўсвядомілі, што перад імі не проста прарок, але Сам Пан. Свята Перамянення Пана нагадвае вернікам на прыкладзе Езуса Хрыста пра неабходнасць духоўнага перамянення і ўдасканалення. Лічыцца таксама, што гэтае свята звязана са старазапаветным днём асвячэння пладоў. Так, на Усходзе ў пачатку жніўня выспяваюць злакі і вінаград, якія хрысціяне прыносяць у храм для блаславення.

**10 жніўня – успамін святога Лаўрэнцыя, святара і мучаніка.**

Паводле падання, Лаўрэнцій паходзіў з Іспаніі. Ён быў дыяканам і служыў пры св. Папу Сіксту ІІ, з якім яго звязвалі блізкія сяброўскія адносіны. 6 жніўня 258 г. падчас пераследу цэзара Валяр'яна Папу і чацвярых яго дыяканаў, у тым ліку і Лаўрэнцыя, арыштавалі на набажэнстве ў рымскіх катакомбах Калікста. Папу ў той жа дзень адсеклі галаву (успамін св. Сікста ІІ, Папы і мучаніка, прыпадае на 7 жніўня), а праз чатыры дні мучаніцкую смерць прыняў таксама і Лаўрэнцій: ён быў спалены жывым. Перад смерцю цэзар патрабаваў у яго выдаць багацці хрысціянаў, на што святы, паказваючы на жабракоў, сказаў: "Вось сапраўднае багацце Касцёла!" Цела святога Лаўрэнцыя спачывае ў базіліцы, што носіць яго імя і з'яўляецца адным з найважнейшых касцёлаў Рыма, а галава святога – адна з найкаштоўнейшых рэліквій хрысціянства – захоўваецца ў Ватыкане. Святога Лаўрэнцыя заўсёды ўшаноўвалі і на Захадзе, і на Усходзе, а ў Рыме ён лічыцца трэцім пасля святых апосталаў Пятра і Паўла ў іерархіі культу. Святы з'яўляецца апекуном пажарных, яго заступніцтва просяць пры хваробах скуры, а таксама ад пажараў і мукаў чысца.

**14 жніўня – успамін св. Максімільяна Марыя Кольбэ.**

Святы Максімільян нарадзіўся 8 студзеня 1894 г. у Здуньскай Волі каля Лодзі (Польшча). Вучыўся ў Рыме, меў ступень доктара. У 1918 годзе атрымаў святарскае пасвячэнне ў ордэне францішканаў. З'яўляецца заснавальнікам апостальскага таварыства "Рыцарства Беззаганнай" і рэлігійнага часопіса "Рыцар Беззаганнай". У час акупацыі арыштаваны і вывезены ў канцлагер у Асвенціме. Там ахвяраваў сваё жыццё за бацьку адной сям'і. Памёр у камеры смерці ў ліпені 1941 г. Беатыфікаваны Папам Паўлам VI 17 кастрычніка 1971 г., а Папа Ян Павел ІІ кананізаваў Максімільяна Марыя Кольбэ 10 кастрычніка 1982 г.

**15 жніўня – свята Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі.**

У 1950 годзе Папа Пій XII асаблівым дэкрэтам афіцыйна прыняў дагмат аб цялесным Унебаўзяцці Маці Божай на неба. У гэтым дагмаце адлюстравалася вера, якой спрадвеку прытрымліваўся Касцёл. У дзень Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі існуе традыцыя ў знак падзякі прыносіць першыя плады новага ўраджаю. У гэты дзень для вернікаў з'яўляецца абавязковым наведванне св. Імшы.

**22 жніўня – урачыстасць Маці Божай Браслаўскай Валадаркі азёраў.**

Пра касцёл у Браславе ведаюць шматлікія вернікі не толькі Віцебскай дыяцэзіі, але і ўсёй Беларусі. Падставай гэтаму служыць цудадзейны абраз Маці Божай Браслаўскай, які знаходзіцца ў галоўным алтары святыні. 22 жніўня 2009 года браслаўская парафія Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі перажыла велічную і значную падзею – каранацыю папскімі каронамі цудатворнага абраза Маці Божай Валадаркі азёраў. Штогод на ўрачыстасць Маці Божай Браслаўскай прыязджае вялікая колькасць вернікаў з усёй Беларусі, каб выказаць Ёй сваю падзяку і пашану. У Браславе ўрачыстасці Маці Божай Валадаркі азёраў пройдуць сёлета 18-19 жніўня пад дэвізам "Фацімскі заклік Марыі – новы шанец для сучаснага свету".



**24 жніўня – успамін св. Барталамея, апостала.**

*Падрыхтавала*
**Ірына Радзевіч**

## Беларусь у "святых" гербах: Кобрын

**Мне падабаюцца гербы, якія маюць у сабе нейкую загадку або неадназначнасць. Герб Кобрына з гэтай серыі. Безумоўна, не маем сумневаў, што ўсе постаці на гербе – гэта святыя, таксама як не падлягае аспрэчванню, што жанчына з зоркамі на плячах – гэта Багародзіцца, а дзіця ў яе руках – маленькі Езус. Пытанне: хто другая жанчына на кобрынскім гербе?**

**айцец Андрэй Сідаровіч МІС**, *Росіца*





Адзін з маіх знаёмых задаў калісьці пытанні: "Мы ведаем, што Марыя і Альжбета – гэта сям'я. Цікава, Езус і Ян Хрысціцель сустракаліся ў дзяцінстве ці маладосці? А ці гулялі разам у дзіцячыя гульні? Ці іх сустрэча над Іарданам была першай?" Евангелле не распавядае пра такія здарэнні, але тут можна крыху пафантазіраваць.

Першае ўражанне ад кобрынскага герба было менавіта такім, што на ім святая Марыя, якая паказвае маленькага Езуса Альжбеце, сваёй сваячцы. Яны сапраўды павінны былі зблізіцца, паколькі мелі вельмі падобныя перажыванні: цудоўнае, невытлумачальнае прыроднымі законамі нараджэнне дзіцяці, агульнае прадчуванне місіі, якое атрымалі ад Бога іх дзеці. З Евангелля ведаем, што Марыя не сумнявалася: Альжбета патрабуе яе апекі і дапамогі перад нараджэннем дзіцяці. Ці паўтараліся пазней гэтыя візіты, евангелісты не згадваюць.

Сучасная версія кобрынскага герба, з раздзяленнем прадстаўленых постацей, выклікае здзіўленне і чарговае пытанне. Чаму выява так радыкальна змянілася? З апісанняў дадзенага Кобрыну ў 1589 г. герба ясна вынікае, што жанчына побач з Багародзіцай – гэта не Альжбета, а святая Ганна, маці Марыі і адпаведна бабуля Езуса (!) Яна памерла, калі Марыя была маленькай дзяўчынкай, таму не магла бачыць Езуса. Па парадзе тагачаснага праваслаўнага Экзарха Філарэта, постаці на гербе пакінулі, але Ганну прадставілі ў так званай "вольнай" частцы герба. З аднаго боку, калі браць пад увагу гістарычнасць як крытэрый, то гэта была добрая парада, але багаслоўе і мастацтва дазваляюць ствараць кампазіцыі, дзе сваё месца знаходзяць прадстаўнікі не толькі розных пакаленняў, але нават розных эпох.



Цікава, што герб Кобрына выкарыстоўваў таксама Гарадзец. Гэта, хіба што, ці не адзіны выпадак, калі два мястэчкі мелі адзін магістрат, адзін герб і адну пячатку.

## На жнівень прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і дні святарскага і біскупскага пасвячэння ў наступных святароў і біскупаў:

**3 жніўня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Мікалай Ліпскі** *(Новалукомль)*;

**4 жніўня** – дзень нараджэння адзначае **а. Яраслаў Банасяк OFMConv** *(Удзела)*;

**5 жніўня** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Юрый Жаўнаровіч** *(Ахрэмаўцы)*;

**6 жніўня** – дзень нараджэння адзначае **біскуп Аляксандр Яшэўскі SDB**, дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі;

**7 жніўня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Уладзімір Шымковіч** *(Дуброўна)*;

**10 жніўня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Вячаслаў Адамовіч** *(Дзісна)*;

**11 жніўня** – дзень нараджэння адзначае **а. Марэк Пасют OFMCap** *(Докшыцы)*;

**15 жніўня** – дзень нараджэння адзначае **а. Крыштаф Коц'ян OP** *(Віцебск)*;

**16 жніўня** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Кшыштаф Сілкоўскі SCJ** *(Шаркаўшчына)*, **кс. Генадзь Рэйшаль** *(Віцебск)*;

**17 жніўня** – імяніны адзначае **кс. Яцэк Хутман** *(Камаі)*;

**18 жніўня** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Вячаслаў Адамовіч** *(Дзісна)*, **кс. Валерый Марціноўскі** і **кс. Антон Лагунёнак** *(Канстанцінава)*;

**21 жніўня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Дзмітрый Рацько** *(Празарокі)*;

**24 жніўня** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **а. Крыштаф Коц'ян OP** *(Віцебск)*;

**26 жніўня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Андрэй Кулік** *(Дзеркаўшчына)*;

**28 жніўня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Аляксандр Дулінец** *(Падсвілле)*,

**29 жніўня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Вячаслаў Пялінак** *(Ідолта)*;

**30 жніўня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Шыман Фарайтэр OMI** *(Шуміліна)*;

**31 жніўня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Уладзімір Заянчкоўскі** *(Лепель)*.

**Просім нашых дарагіх чытачоў памятаць пра малітву за гэтых святароў і біскупаў.**

*Падрыхтавала*
**Ірына Радзевіч**

# Як быць, калі паміраюць блізкія людзі?

*"Людзі пастаянна задаюць пытанні кшталту: куды адпраўляецца душа пасля смерці? Ці ёсць яна наогул пасля смерці? І гэтак далей. Але мне цікава даведацца, як павінен паводзіць сябе чалавек па хрысціянскіх правілах пасля смерці сваяка, каб стала лягчэй і яго душы, і самому сабе?"*
*Вольга*

**На пытанне адказвае айцец Андрэй Сідаровіч MIC з Росіцы:**

– Мы, хрысціяне, абапіраючыся на слова Божае, верым, што чалавек – істота выключная сярод Божых стварэнняў. Гэтая выключнасць грунтуецца на дарах розуму, вольнай волі і менавіта на дары несмяротнай душы. Таму не сумняваемся, што пасля смерці фізічнай чалавек не памірае, а толькі пераходзіць у духоўную рэчаіснасць. Катэхізіс падказвае, што пасля смерці чалавека чакае суд Божы, і як яго вынік – рай, чысцец або пекла.

У выпадку, калі мы спадарожнічаем чалавеку, які памірае, важна паклапаціцца пра яго фізічныя і духоўныя патрэбы. Фізічныя патрэбы нам зразумелыя: калі чалавек хворы або старога ўзросту – гэта звычайная апека над нямоглым, а таксама задавальненне медычных патрабаванняў. З гэтым мы ў прынцыпе спраўляемся. Духоўныя патрэбы чалавека нябачныя, але вельмі важныя і для нас, і для таго, хто адыходзіць.

Касцёл здаўна разумеў патрэбу ў дапамозе перайсці чалавеку ў іншы свет. Няма чаго хаваць, што смерць найчасцей не выклікае ў нас захаплення, а наадварот, страх, нават панічную боязь. Нашай дапамогай для чалавека можа быць далікатная падказка пра споведзь і малітву святара. На жаль, часта сутыкаюся з сітуацыяй, калі мяне клічуць запозна: чалавек ужо без памяці, пры смерці. Безумоўна, малюся за кожнага, але супакой прыходзіць тады, калі маю магчымасць чалавека паспавядаць, прымірыць яго з Богам перад тым, як ён пераступіць апошні парог.

Да сённяшняга памятаю чалавека, які быў невылечна хворы і ўжо не мог гаварыць. Я спавядаў яго ў рэанімацыі. На шчасце, ён быў прытомны і чуў мяне. Я папрасіў яго размаўляць са мной вачыма, міргаючы, калі хоча сказаць "так". Вы хочаце паспавядацца, вызнаць перад Богам грахі? Паказвае "так". Я буду называць грахі, а вы міргайце, калі яны былі ў вас. Міргае, што зразумеў.

Гэта была адна з найбольш узрушвальных споведзяў у маім святарскім жыцці. Ноччу Бог паклікаў гэтага чалавека да сябе. Думаю, усё што зробім для нашых блізкіх і для іх духоўнай карысці – споведзь, намашчэнне, Святая Камунія, малітва, – дапаможа чалавеку адысці ў вечнасць, а нам перажыць жалобу па ім.

З досведу я бачу, што чалавеку-верніку лягчэй перажываць смерць блізкіх. Праз веру, малітву, сакраманты мы атрымліваем рэальнае Божае суцяшэнне, якога не можа даць ніхто іншы.

# Святы, які плакаў сам і змушаў плакаць іншых

## Святы Бернард з Клерво (1090-1153). 20 жніўня

**"Што гэта? Што здарылася?" – такое пытанне маглі задаваць жыхары Бургундзіі і навакольных рэгіёнаў на пачатку XII стагоддзя.**

■ **айцец Андрэй Сідаровіч MIC**, *Росіца*

Чаму чутны плач на вуліцах? Чаму лямантуюць і заломваюць рукі жанчыны розных узростаў. Гэта плач па памерлых? Гэта чума наведала горад? Можа, нейкае іншае, раней не сустраканае няшчасце прыйшло на зямлю? А можа, гэта другое прышэсце Хрыста? Адказ, які даюць сярэднявечныя хронікі, больш празаічны: у горад прыйшоў Бернард з Клерво!

Назіранні за жыццём святых дазваляюць нам нанова адкрываць праўду, што вера – гэта неймаверная сіла! Часта неакрэсленая, якая не паддаецца разумоваму вымярэнню ці логіцы, менавіта яна, вера, "пераносіць горы". Бернард з Клерво – гэта жывы доказ веры практычнай, дзейснай, жывой. Народжаны ў сям'і бургундскага двараніна, ён не пагадзіўся з прызначанай роляю рабіць кар'еру пры двары мясцовага валадара і перайшоў у кляштар манахаў-цыстэрцаў у Сіто. Ужо тады за Бернардам пайшлі чатыры браты і яшчэ дваццаць пяць сяброў (!) Таму не выклікае здзіўлення, што біёграфы апісваюць, як маладыя дзяўчаты галасілі, аплакваючы свой лёс, што застануцца незамужнімі, а маці рабілі ўсё, каб іх сыны не пачулі казання будучага святога.

Каб сабе ўявіць сілу ўздзеяння святога Бернарда на сучаснікаў, трэба звярнуцца да лічбаў. Калі Бернард прыходзіць да цыстэрцаў, гэта новая рэфармаваная галіна бэнэдыктынцаў мае толькі тры кляштары. Калі Бернард памірае, то кляштараў ужо... 350! 65 з іх асабіста заснаваў Бернард.

Святы Бернард меў два асаблівыя віды сваёй пабожнасці: набажэнства да Маці Божай і набажэнства да Мукі Пана (адарацыя Крыжа). Адмысловая сувязь з Маці Божай – гэта вынік ранняга адыходу ў вечнасць мамы будучага святога. Пасля яе смерці ён цалкам аддаецца ў сыноўскую падданасць Марыі і такім чынам сапраўды ўсё жыццё перажывае сувязь з Багародзіцай. Можна сказаць, што яго пабожнасць нечувана чуллівая, пяшчотная ў адносінах да Святой Марыі.

Набажэнства да Мукі Пана Бернард практыкаваў таксама вельмі эмацыйна. Браты неаднойчы заўважалі, як ён



размаўляе з укрыжаваным Хрыстом, стоячы каля распяцця. Таксама бачылі ўнутранае да слёз узрушэнне, калі святы праходзіў каля крыжа.

Цікава таксама, што Бернард спалучыў у сабе вялікую пабожнасць і веру з выключнымі інтэлектуальнымі здольнасцямі. Ён лічыў, што розум мае свае абмежаванні ў спасціганні таямніц Божых. Спрачаўся з іншымі багасловамі і быў перакананы, што вяршыня і мера веры чалавека – гэта любоў. А любоў спасцігаецца праз пакору, малітву, сузіранне Божага аблічча, а не толькі праз багаслоўскія спрэчкі.

Святы Бернард прысутны штодзённа з намі праз сваю вядомую малітву "Памятай, о Насвяцейшая Панна Марыя!.."

# АДПАЧЫВАЮЧЫ ці АДПАЧЫВАЛЬНІК? АТЭЛЬ ці ГАТЭЛЬ? СКІДКА ці ЗНІЖКА? Як варта казаць па-беларуску?

■ **Юрась Бабіч**, *кандыдат філалагічных навук*

З набліжэннем лета людзі традыцыйна маюць водпуск, ці, інакш кажучы, адпачынак. Многія выязджаюць у іншыя краіны (як, дарэчы, можна назваць тых, хто выязджае з мэтай там адпачыць: *адпачываючы? адпачывальнікі?*), дзе на пэўны час пасяляюцца ў гасцініцах (*атэлях? гатэлях?*), часта карыстаюцца пэўнымі прэферэнцыямі (*скідкамі? зніжкамі?*). У сучасным беларускамоўным дыскурсе мы нярэдка бачым разыходжанні ў выкарыстанні прыведзеных вышэй назоўнікаў. Якія ж словы варта ўжываць найперш з пункту гледжання культуры маўлення? Паспрабуем разабрацца.

"Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (ТСБМ, у 5 тамах, 1977-1984) для абазначэння таго, хто недзе адпачывае, падае толькі дзеепрыметнік *адпачываючы* ў значэнні назоўніка (Т.1, с.165). Але падобныя ўтварэнні неўласцівыя сучаснай беларускай мове, яны ўжываліся ў савецкі час і з'яўляюцца вынікам русіфікацыі беларускай лексікі. На пачатку XXI стагоддзя ў нашай мове трывала замацаваўся з гэтым значэннем назоўнік **адпачывальнік**, утвораны паводле прадуктыўнай мадэлі (параўнаем: *настаўнік, будаўнік, кіраўнік, пісьменнік і г.д.*). Айчынны друк рэгулярна выкарыстоўвае згаданую лексему: ***Адпачывальнікі** са здраўніц "выпаўзаюць" у гадзін 10-11* (Звязда, 12.05.12); *У параўнанні з мінулым летам колькасць **адпачывальнікаў** у Еўпаторыі знізілася амаль у тры разы* (Народная воля, 19.09.14); ***Адпачывальнікі** ўбачылі ў дзеяннях міліцыянераў парушэнне сваіх правоў...* (Звязда, 10.01.17). Фіксуе гэты апелятыў і акадэмічны "Слоўнік беларускай мовы" (2012, с. 56). Такім чынам, той, хто адпачывае, – гэта **адпачывальнік**, а не *адпачываючы*.

Адпачывальнікі загадзя клапоцяцца пра гасцініцу, або, іншымі словамі, пра гатэль. Менавіта **гатэль**, а не *атэль*. Слова **гатэль** прыйшло з французскай мовы: фр. hotel ад лацінскага hospitale – "прытулак". Выдатны знаўца беларускай лексікі прафесар Павел Сцяцко заўважае, што ў нашай мове замацавалася форма *гатэль* "як вынік транслітарацыі пазычанага слова: hotel → гатэль" (Павел Сцяцко. Культура мовы. – Мінск, 2002. – с.211). І, што вельмі важна, форма з прыстаўным гукам пераважае ў штодзённай моўнай практыцы: *Рака звалася на той час у грэкаў Эрыданам і ў памяць аб ёй назвалі ў Віцебску лепшы **гатэль*** (Віцебскі кур'ер, 28.10.10); *У элітным **гатэлі** прадугледжаны 35 нумароў для гасцей...* (Наша ніва, 22.06.11); ***Бутык-гатэль** "ARTIS"* (Наша ніва, 28.01.15); *Першы **гатэль** з персаналам з робатаў адкрыецца ў Японіі* (Звязда, 7.02.15). Адзначым таксама і рэгулярнае выкарыстанне памяншальна-ласкальнай формы назоўніка і ўтворанага на яго аснове прыметніка: *Тут з тузін **гатэлікаў** і гасцявых дамоў* (Наша ніва, 15.06.11); *Прыемна тое, што сціплая сядзіба "Родны кут" перамагла сотні наварочаных **гатэльчыкаў** з металадахоўкаю і джакузі* (Вольнае Глыбокае, 16.06.11); *Тут будзе **гатэльна-турыстычны** комплекс* (Наша ніва, 31.08.11); *Перадзел **гатэльнага** бізнэсу* (Наша ніва, 18.01.12).

Адпачывальнікі, замаўляючы месца ў гатэлі, спадзяюцца атрымаць нейкія зніжкі. Менавіта **зніжкі**, а не *скідкі*. Матывацыя назоўніка надзвычай празрыстая і асацыюецца з дзеясловам *зніжаць*. Назоўнік **зніжка** рэгулярна выкарыстоўваецца і ў вусным маўленні, і ў пісьмовай практыцы: *Сацыяльныя **зніжкі** жыхарам Віцебска* (Звязда, 12.10.10); *У "Экамедсэрвісе", калі прыйсці ўсёй сям'ёй, можна атрымаць **зніжку*** (Наша ніва, 17.11.10); ***Зніжкам** кожны рады. Асабліва на Каляды* (Звязда, 30.11.11); *Напярэдадні дзесяцьмясцовых бізнэсоўцаў абвясцілі акцыю – той, хто будзе мець квіток з імпрэзы, атрымае **зніжку** на іх тавары і паслугі* (Наша слова, 7.12.11); *Камароўка – тэрыторыя **зніжак*** (Звязда, 9.11.16). Як бачна, розныя выданні актыўна ўжываюць назоўнік *зніжка* на сваіх старонках. Гэтае слова даўно ўжо стала фактам літаратурнай мовы.

Такім чынам, распавядаючы сваім сябрам ці знаёмым пра планы на адпачынак, мы можам пабудаваць прыгожую беларускую фразу: *Усе **адпачывальнікі** загадзя замовілі месцы ў **гатэлі** і атрымалі добрыя **зніжкі**.* Гэта насамрэч гучыць шляхетна, густоўна і выдатна адлюстроўвае ўсю прыгажосць нашай мілагучнай мовы.

## Віншуем!

*16 ліпеня гадавіну святарскага пасвячэння адзначае наш **ксёндз-пробашч Генадзь Ляўкоў**.*

*Паважаны ксёндз Генадзь! Прыміце ад нас букет найлепшых пажаданняў: шчасця, моцнага здароўя, задавальнення ад душпастырскай працы, радасці. Няхай Усемагутны Божа адорвае Вас шчодрай ласкай, а Маці Божая ніколі не пакідае, а ахіне сваёй апекай на доўгія гады святарскага служэння!*

*Нашы найлепшыя пажаданні Вашым бацькам, здароўя ім на доўгія гады! Наша падзяка ім за выхаванне такога слаўнага, добрага сына-святара!*

***Удзячныя вернікі парафіі святых Пятра і Паўла з Дрысвят, Браслаўскі р-н***

## Хвала Хрысту!



*Два гады ў нашай парафіі працаваў вікарыем **ксёндз Яўген Міхайлаў** – малады, добрасумленны, працалюбівы, сціплы чалавек. Зараз святар працуе пробашчам у Лучаі. 22 ліпеня ў ксяндза Яўгена Дзень нараджэння, а 25 ліпеня – гадавіна святарскага пасвячэння.*

*З гэтай нагоды з пачуццём глыбокай павагі віншуем Вас, шаноўны ксёндз Яўген! Жадаем Вам Божых ласкаў, апекі Маці Божай, моцнага здароўя. Няхай міласэрны Езус кожны дзень прытуляе Вас да свайго сэрца і заўсёды благаслаўляе на добрыя ўчынкі! Жадаем, каб на Вашым святарскім шляху сустракалася шмат адкрытых і шчырых людскіх сэрцаў, каб парафіяне лучайскай парафіі дапамагалі Вам ва ўсіх справах. Дзякуем Вам за адданую працу ў нашай парафіі, за шчырую малітву і абвяшчэнне Божага слова! Мы будзем маліцца за Вас.*

***Вернікі парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім***

## Хвала Хрысту!

*Паважаны **ксёндз Яўген Міхайлаў**! Віншуем Вас з Днём нараджэння (22 ліпеня) і гадавінай святарскіх пасвячэнняў (25 ліпеня)! Жадаем Вам моцнага здароўя, апекі Маці Божай, дароў Духа Святога, плёну ў працы на Божай ніве!*

***Вернікі капліцы Божай Міласэрнасці, аг. Навасёлкі (Лучайская парафія)***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Шчыра віншуем **ксяндза Уладзіслава Лазара** з нагоды імянін (27 чэрвеня)!*

*Мы ўдзячныя Пану Богу, што ў нас служыць шчыры ў малітве святар, які вучыць нас быць сапраўднымі хрысціянамі і заўсёды знаходзіць добрае слова для кожнага чалавека. Шчыра дзякуем ксяндзу Уладзіславу за вялікую працу ў нашай святыні, за дабрыню, за клопат пра кожнага, за прыемную атмасферу і лагодную ўсмешку!*

*Нізкі паклон Вам, шаноўны святар, за дабрыню, шчырую малітву, разуменне і цярплівасць, спагадлівае і чулае сэрца. Сардэчна жадаем Вам моцнага здароўя, сіл і нястомнасці ў служэнні Богу і людзям, шчырых вернікаў побач, поспехаў у ажыццяўленні ўсіх планаў і задумаў! Няхай кожны Ваш дзень будзе асветлены промнямі Божай міласэрнасці!*

***З павагай і ўдзячнасцю, парафіяне касцёла святых Пятра і Паўла ў в. Камень (Валожынскі р-н)***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*7 ліпеня адзначыў Дзень нараджэння **ксёндз Аляксандр Півавар**.*

*Шаноўны ксёндз Аляксандр! Дасылаем Вам сардэчныя пажаданні моцнага здароўя, Божых ласкаў, радасці, людской добразычлівасці. Няхай усмешка заўсёды гасціць на Вашым твары, а агеньчык, запалены Панам Богам у Вашым сэрцы, асвятляе святарскі шлях! Няхай Маці Божая моліцца за Вас перад Божым тронам, а Пан Езус абараняе ад небяспекі! Нізкі паклон Вам, ксёндз Аляксандр, ад усіх парафіян за адданае служэнне Богу і людзям, за добрае і чулае сэрца. Помнім, любім і молімся за Вас кожны дзень. Шчасці, Божа, бацькам за сыноў-святароў!*

***З павагай і ўдзячнасцю, парафіяне касцёла св. Айца Піа ў Лёзне***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Ад шчырага сэрца віншуем з імянінамі (15 ліпеня) свайго земляка **ксяндза Уладзіміра Шымковіча**, які працуе ў Дуброўне!*

*Няхай Езус Хрыстус благаслаўляе кожны Ваш дзень! Няхай Маці Божая Ласкавая заўсёды трымае Вас, паважаны ксёндз Уладзімір, пад сваёй апекай, а Пан Бог шчодра адорвае ўсімі неабходнымі ласкамі, памнажае мудрасць і падтрымлівае ў цярпенні!*

***Вернікі лынтупскай парафіі Св. Андрэя Баболі, Пастаўскі р-н***

## Хвала Хрысту!

*Шчыра віншуем нашага **ксяндза Браніслава Дашкевіча** з Днём нараджэння (3 ліпеня)! У гэты летні дзень Пан Бог разам з яго бацькамі падараваў Касцёлу хлопчыка, які з цягам часу стаў слугою Божым і атрымаў святарскае пасвячэнне. Зараз ксёндз Браніслаў дапамагае людзям наблізіцца да Бога, адчуць Яго прысутнасць у жыцці і пабудаваць кожнаму свае асабістыя адносіны з Езусам Хрыстом.*

*Мы вельмі ўдзячныя нашаму святару за яго веды, якімі ён шчодра дзеліцца з намі, за яго шчырасць, за лагодную ўсмешку і прыемны голас.*

*Просім у Пана Бога добрага здароўя для ксяндза Браніслава, благаслаўлення на далейшыя гады яго святарства і аддаём яго ў апеку Маці Божай!*

***Вернікі парафіі Адведзіны Панны Марыі, г. Гарадок***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Мы рады даслаць у газету нашы шчырыя віншаванні шаноўным святарам з нагоды знакавых і важных дат у іх жыцці!*

***7 ліпеня** – дзень нараджэння **кс. Аляксандра Півавара**;*
***10 ліпеня** – імяніны **кс. Віталя Маргунова**;*
***15 ліпеня** – дзень нараджэння **кс. Уладзіміра Заянчкоўскага**;*
***16 ліпеня** – гадавіна святарскага пасвячэння **кс. Аляксандра Барана**;*
***25 ліпеня** – імяніны **кс. Аляксандра Грыцкевіча**;*
***28 ліпеня** – дзень нараджэння **кс. Анджэя Бульчака**.*

*Сардэчна вітаем, дзякуем і жадаем моцнага здароўя, бадзёрасці і аптымізму, Божай падтрымкі ва ўсіх Вашых справах і плёну ў працы на доўгія гады святарскага служэння! Няхай Пан Бог заўсёды апякуецца Вашым жыццём, напаўняе яго павагай, радасцю і дабрынёй!*

***Удзячныя парафіяне чашніцкага касцёла***



## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Праз газету "Каталіцкі Веснік" хочам падзякаваць усім супольнасцям, якія моляцца ў інтэнцыі біскупа Алега і ўсіх святароў. Вельмі прыемна, што ўсё больш людзей далучаецца да гэтых супольнасцяў. Няхай Добры Бог узнагародзіць іх за гэту малітву! Яна так неабходная ўсім духоўным асобам у іх нялёгкай, але патрэбнай людзям душпастырскай працы. Божа, адудзяч усім добрым людзям!*

***З вялікай пашанай і шчырай падзякай, сям'я Буткевічаў***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*28 ліпеня адзначае імяніны **айцец Віктар Бурлака**, кусташ Нацыянальнага санктуарыя Маці Божай у Будславе.*

*Дарагі айцец Віктар! Прыміце нашы шчырыя пажаданні моцнага здароўя, сіл і цярпення на Вашым нялёгкім жыццёвым шляху, душэўнага спакою і добрага настрою! Няхай Усемагутны Бог дапамагае Вам, а Маці Божая хай абараняе Вас і падтрымлівае!*

*Мы заўсёды адчуваем Ваш клопат пра нас, бачым, колькі намаганняў Вы прыкладаеце дзеля таго, каб наша святыня і яе наваколле радавалі ўсіх парафіян. Сардэчна дзякуем за сумесныя малітвы, за клопат пра людзей. Дзякуем Вам за шчырую ўсмешку. Няхай святы заступнік засцерагае Вас ад няшчасцяў і дапамагае ў кожную хвіліну жыцця!*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі будслаўскай парафіі Унебаўзяцця НПМ з вёсак Яцкавічы і Ілава***

## Віншуем!



*10 ліпеня наш былы **ксёндз-пробашч Віталь Галец** адзначае імяніны, а 26 ліпеня – гадавіну святарства.*

*Мы, вернікі з Дрысвят Браслаўскага р-на, жадаем Вам, ксёндз Віталь, радасных светлых дзён, моцнага здароўя, душэўнага супакою, добразычлівых людзей на жыццёвым шляху!*

*Няхай Езус Хрыстус благаслаўляе кожны дзень, Маці Божая хай ахінае Вас любоўю і апекай, а Святы Дух дапамагае выконваць душпастырскую паслугу і шчодра надзяляе сваімі дарамі! Мы пра Вас памятаем у сваіх малітвах.*

***Касцельны хор дрысвяцкай парафіі святых Пятра і Паўла***

## Хвала Хрысту!



*Паважаны **ксёндз Анджэй Бульчак**! Сардэчна віншуем з Днём нараджэння і дасылаем Вам нашы найлепшыя пажаданні!*

*Дзякуем за душпастырскую працу ў нашай парафіі і за пабудаваны касцёл!*

***З вялікай павагай і ўдзячнасцю, вернікі касцёла Перамянення Панскага ў г. Чашнікі***

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9**

1 - А; 2 – Б; 3 – А; 4 – А; 5 – Б; 6 – А; 7 – Б; 8 – А

# Чаму касцёл забараняе кантрацэпцыю?



*"Чаму касцёл забараняе кантрацэпцыю?"*
*Лізавета*

**На пытанне адказвае а. Аркадзь Куляха OCD, Міждыяцэзіяльная вышэйшая духоўная семінарыя імя святога Тамаша Аквінскага ў Пінску:**

– Паважаная Лізавета! Кантрацэпцыя належыць да складаных і яшчэ мала распрацаваных пытанняў у беларускамоўным тэалагічна-маральным навучанні. Дзякуй Богу за дар сямейных кансультантаў у шматлікіх парафіях, якія валодаюць адпаведнымі ведамі і могуць адказаць на шматлікія пытанні, звязаныя з тэалогіяй чалавечага цела, маральнасцю ды этыкай жанчын і мужчын, якія ўжо ў шлюбе або сур'ёзна думаюць пра яго. Жыццё вучыць, што не ўсе звяртаюцца да адпаведна падрыхтаваных спецыялістаў, ды не ў кожнай парафіі вернікі могуць атрымаць адказы на свае пытанні.

## Клопат Касцёла пра чалавека

Касцёл у сваім вучэнні ніколі не выступае супраць чалавека, але імкнецца дапамагчы яму ісці па жыцці дарогаю святасці, таксама і ў галіне сексуальнасці, якую лічыць незвычайным дарам самога Бога. Любоў і каханне, пра якое часта кажа каталіцкае навучанне, мае цялесна-духоўны характар, а ў сужэнстве адным з найглыбейшых фактараў цялеснага праяўлення кахання з'яўляецца менавіта сексуальны акт. Касцёл успрымае пазітыўна не толькі чалавечую сексуальнасць, але таксама дадзеную Богам здольнасць самастойна кіраваць гэтай сферай свайго жыцця. Менавіта здольнасць самакіравання пры супрацоўніцтве з Божай ласкай робіць чалавечую асобу сапраўды свабоднай. Узгаданая здольнасць датычыць кожнага выбару. У гэтым адказе гаворка пойдзе пра кантрацэпцыю ў сужэнскіх адносінах, паколькі Касцёл лічыць, што на палавы акт маюць права толькі сужэнцы. Тым не менш спадзяюся, што пададзеная інфармацыя будзе карысная шырокаму колу чытачоў.

## Сутнасць кантрацэпцыі

Тэрмін "кантрацэпцыя" паходзіць з лацінскай мовы і ў вольным перакладзе азначае "дзеянні супраць зачацця". Прэпараты ці механічныя сродкі ставяць мэтаю перашкодзіць зачацце новага жыцця. Існуюць розныя віды кантрацэпцыі, сярод якіх можна вылучыць гарманальныя, хімічныя прэпараты, механічныя сродкі, а таксама стэрылізацыю. Усе яны ў разуменні Касцёла парушаюць канстытутыўнае вымярэнне чалавечай асобы, пазбаўляюць чалавека ўласцівай яму магчымасці панавання над сваімі чынамі і робяць яго прадметам маніпуляцыі.

Тут трэба адзначыць, што некаторыя віды кантрацэпцыі, як, напрыклад, унутрыматачная спіраль і гарманальныя прэпараты, асабліва так званая "экстранная кантрацэпцыя" насамрэч маюць абартыўны механізм дзеяння, бо перашкаджаюць прымацаванню аплодненай яйцаклеткі да паласціны маткі, у выніку чаго яна гіне. Такім чынам, зачацце адбываецца, аднак пад уздзеяннем гарманальных прэпаратаў або спіралі цяжарнасць не можа развівацца і эмбрыён памірае.

Вынікам і мэтаю выкарыстання сродкаў кантрацэпцыі ёсць выклікаць штучным чынам немагчымасць зачацця новага жыцця. Прычынай такога дзеяння з'яўляецца страх перад перспектывай мець дзіця пры адначасовым імкненні да атрымання цялеснага задавальнення. Дадзеная Богам здольнасць зачаць лічыцца многімі пагрозай і перашкодай шчасліваму жыццю. Кантрацэпцыя насамрэч дае перш за ўсё жанчыне, але таксама і мужчыну магчымасць ці часова, ці пастаянна стаць бясплоднымі. З іншага боку, вядома, што сама бясплоднасць – гэта хвароба, якая вельмі балюча закранае шматлікія пары.

Быў час, калі цяжарнасць лічылася і называлася благаслаўлёным станам. Можа, варта да гэтага паступова вяртацца!

## Навучанне Касцёла

Асноўным дакументам, які ясна тлумачыць навучанне Касцёла ў сферы сексуальнасці і адказнага бацькоўства, з'яўляецца энцыкліка благаслаўлёнага Папы Паўла VI Humanae vitae, якая была абвешчана напрыканцы шасцідзясятых гадоў мінулага стагоддзя менавіта ў часе маштабнага распаўсюджвання кантрацэпцыі. Значны ўклад у хрысціянскую антрапалогію і маральнасць зрабіў святы Папа Ян Павел II, асабліва сваімі разважаннямі на тэму тэалогіі цела. Варта заўсёды звяртацца да яго адгартацыі Familiaris consortio.

У сваім вучэнні Касцёл адрозніваe дзве асноўныя функцыі цялеснага з'яднання мужчыны і жанчыны: першая – пракрэацыйная, якая служыць перакаванню жыцця, і другая – аб'яднальная, якая будуе адзінства ў шлюбе. Благаслаўлёны Павел VI у энцыкліцы Humanae vitae піша, што сужэнскі акт па сваёй найглыбейшай сутнасці цесна звязвае мужа і жонку, робячы іх здольнымі да нараджэння новага жыцця, згодна з правам, запісаным у самой натуры мужчыны і жанчыны. Папа не сказаў нічога новага, але прыпомніў традыцыйнае навучанне Касцёла, якое абапіраецца на прынцыпы Божага Аб'яўлення, натуральнага права ды здаровага чалавечага вопыту. Касцёл не ўстанавіў натуральнага і евангельскага права, але ахоўвае яго, тлумачыць і перадае чальцам Містычнага Цела Хрыста.

Касцёл усведамляе, што абарона недатыкальнасці маральнага права ў дачыненні да чалавечага кахання спрыяе ўмацаванню сярод людзей сапраўднай культуры жыцця, а таксама заахвочвае не адмаўляцца ад сваіх абавязкаў, не абапіраючыся на тэхнічныя меры там, дзе няма маральна абгрунтаванай неабходнасці. Узгаданыя вышэй два элементы палавога акта (аб'яднальны і пракрэацыйны) нельга ніколі раздзяляць. Такое сцвярджэнне не азначае, што Касцёл патрабуе, каб кожны сужэнскі акт заканчваўся зачаццем, бо гэта нават фізічна немагчыма. Дзякуючы біялогіі ведаем, што паколькі мужчына застаецца заўсёды плодны, то жанчына толькі ў акрэслены перыяд. У 16 пункце ўзгаданай энцыклікі Humanae vitae Папа вучыць, што, калі існуюць сур'ёзныя матывы ўстрымацца ад нараджэння дзіцяці, якія абумоўленыя альбо фізічным або псіхалагічным станам мужа і жонкі ці знешнімі абставінамі, дазваляецца сужэнцам улічваць натуральныя рытмы, уласцівыя рэпрадуктыўным функцыям арганізма, і ўступаць у шлюбныя адносіны толькі ў няплодныя перыяды. Такім чынам яны кіруюць колькасцю зачаццяў, не парушаючы маральных прынцыпы, г. зн. не закрываюцца на зачацце. Кантрацэпцыя па сваёй натуры заўсёды супрацьстаіць зачаццю і новаму жыццю, выключае пракрэацыйны элемент сексуальнасці і нязгодная з Божым планам адносна чалавека.

Чалавек быў так створаны Богам, каб, выкарыстоўваючы натуральныя здольнасці арганізма, здолеў без дапамогі штучных сродкаў кіраваць сваім інтымным жыццём. Бог даў чалавеку натуру, якая сама па сабе можа інфармаваць пра свой стан. Чалавечая натура не толькі цялесная, але таксама духоўная і разумная. У выпадку здаровых людзей няма патрэбы ў аніякай штучнасці ў сексуальнай сферы. Тут месца сустрэчы медыцыны і тэалогіі. Першая кажа пра цела, а другая – пра Стваральніка. Кантрацэпцыя ставіць мэтаю змяненне Божага плану, імкнучыся раздзяляць дзеянне ад яго выніку. Насамрэч яна выцясняе Бога са сферы чалавечай сексуальнасці. Святы Ян Павел II казаў пра Боскую генеалогію чалавека (genealogia divina), якая вырашае ўсе праблемы сужэнства і сям'і. Згодна з ёю жыццё стварае сам Бог, а чалавек умовы, у якіх яно можа зачацца. Вялікі Папа прыпамінаў неадноййчы, што цела кожнага чалавека святое, а цела жанчыны называў святыняй жыцця, яе ж – ахоўніцай жыцця. У сужэнскім акце прысутны Бог Жыватворца, Які дае жыццё.

Касцёл паказвае, што кантрацэпцыя адкрывае шырокую і лёгкую дарогу да сужэнскай нявернасці, непашаны да жанчыны, зводзячы яе да ролі прылады, якая задавальняе эгаістычную прагавітасць, памяншае або знішчае праўдзівую любоў.

Часта меркаванні, якія фарміруе кантрацэпцыя, вядуць таксама да дзеянняў, скіраваных наўпрост супраць жыцця, а менавіта да аборту. Пра гэта выразна гаворыць 17 пункт энцыклікі Humanae vitae. Навука Касцёла падкрэслівае таксама неабходнасць камуніі асоб (communio personarum), якой няма пры ўжыванні кантрацэпцыі. Святы Ян Павел II напісаў, што мова цела патрабуе ўзаемнасці ў інтэгральнай праўдзе пра тое, што азначае. Калі штосьці гэтаму перашкаджае, то нельга казаць ні аб праўдзе аддання сябе, а ні аб прыняцці з боку другой асобы.

## Пазатэалагічныя аспекты кантрацэпцыі

Хоць характар адказу на пытанне перадусім тэалагічна-маральны, нельга абмінуць іншыя аспекты карыстання кантрацэпцыяй, на жаль, мала прадстаўленыя ў беларускамоўных публікацыях.

Шматлікія даследчыкі сцвярджаюць, што кантрацэпцыя, асабліва гарманальная, вельмі негатыўна ўплывае на здароўе маці і будучых дзяцей, таму што змяняе дзеянне арганізма, дакладней кажучы, адключаючы ўвесь натуральны цыкл у арганізме, а ў некаторых выпадках вядзе да сур'ёзных захворванняў. Медыцынская літаратура, якая паказвае наступствы кантрацэпцыі, апісвае шматлікія выпадкі сужэнстваў, якія праз кантрацэпцыю траплялі ў цяжкія псіхапаталагічныя станы і неўрозы, што ў сваю чаргу часам выклікала распад сужэнства. Існуе таксама меркаванне, што нават невялікія і схаваныя сямейныя канфлікты пад уплывам кантрацэпцыі становяцца вельмі вострымі і паглыбляюцца. Псіхолагі заўважаюць таксама, што пабочным вынікам кантрацэпцыі з'яўляюцца сімптомы трывогі, сексуальнай дысфункцыі і неўратычных разладаў адаптацыі. Псіхічнае здароўе дазваляе чалавечай асобе імкнуцца да найвышэйшых мэтаў і ажыццяўлення свайго паклікання ў адпаведнасці з прынятай сістэмай каштоўнасцяў. Усё, што спыняе чалавека ў яго развіцці, адначасова шкодзіць яго псіхічнаму здароўю і неаднойчы вядзе ў напрамку паталогіі.

Не безназначэння ёсць таксама адмоўны ўплыў кантрацэпцыі на характар чалавека як асобы і яго адносіны да свету. Кантрацэпцыя перашкаджае развіццю ўнутранай свабоды, аўтарэфлексіі і адказнасці, якія вызначаюць асабістую сталасць. Адсутнасць адказнасці за кіраванне чалавечай плоднасцю вядзе да яе перанясення на тэхнічныя меры, што ў сваю чаргу прыніжае чалавека і яго годнасць. Пачуццё знявагі і несправядлівасці, з якімі сутыкаецца жанчына, выяўляецца ў расчараванні, адсутнасці даверу ці агідзе да мужа і ў далейшым можа прывесці нават да распаду сям'і.

## Кантрацэпцыя і будучыня

Людзі, якія выкарыстоўваюць розныя сродкі кантрацэпцыі, мяркуюць, што робяць сябе шчаслівымі ў дадзены момант. На жаль, такое меркаванне памылковае. Усё, што чалавек чыніць "сёння", фарміруе будучыню. Вельмі важным пытаннем з'яўляецца ўплыў кантрацэпцыі на свядомасць моладзі. Калі адсутнічае сур'ёзная падстава і дапамога бацькоў (тут важныя таксама адпаведныя веды), тады малады чалавек лягчэй паддаецца адмоўнаму ўплыву рознага кшталту рэкламы і часта фальсіфікаванай інфармацыі пра кантрацэпцыю. Сучасныя "пазасямейныя выхаваўцы" (інтэрнэт, тэлебачанне і іншыя) прапагандуюць сексуальнасць у адарванасці ад пракрэацыйнага элементу ды годнасці чалавека, а сам палавы акт падаюць як чыстае задавальненне. У такой перспектыве плоднасць не лічыцца дарам, але пагрозай, а нават ворагам.

Святы Ян Павел II казаў, што ніколі нельга выкарыстоўваць іншага чалавека, нельга ставіцца да яго, як да прадмета або цацкі, нельга ўжываць чалавека. Гэта адносіцца да кожнага. Дапамогай у сферы сексуальнасці, як і ва ўсім жыцці, ёсць споведзь, якую трэба разумець як асабістую сустрэчу з Міласэрным Богам. Толькі Ён дае сілы да ўсё лепшага і больш годнага жыцця, Ён вядзе да святасці.

# "Каб жыццё не спынілася крахам ..."



**"Да в сроках 7-12 недель – это ж всего лишь сгусток крови, а не человек", – часто доводилось мне слышать эти слова от женщин, оправдывающих аборт в начале беременности. Даже было время – сама в это поверила, и сама совершила этот страшный грех – убийство нерождённого, беззащитного ребёнка.**

После аборта, когда лежала на кресле, отходила от наркоза, зная, что нет во мне того, кто нарушил мои планы, и что я уже свободна. Но какую я тогда ощутила страшную пустоту вместо ожидаемого покоя и свободы! И с ней поделать ничего не могла, и чем-то её заполнить до сих пор не получается. Боль... Хотя знаю, что Господь Милосердный простил меня, но боль обжигает. Боль обжигает меня, ибо я знаю, что душенька моего ребёночка жива и ему больно, что мама его не приняла, не позволила прийти в этот мир. И какую боль он перенёс, когда его убивали!?

Прошли годы. И так случилось, что мне предложили работать в гинекологическом отделении. Я согласилась. И как-то я увидела в пробирках эмбрионы 7 и 12 недель. Для меня это было шоком. До того я уже поняла, что совершила страшное зло, но ещё до конца не осознавала, насколько оно страшное.

> **"У семинедельного эмбриона была сформирована головка, маленькие ручки, а вместо ножек был как бы хвостик. Но было видно, что это человеческое существо"**

Врач решила из крови после абортов выбрать эмбрионы и поместить их в пробирки так, чтобы показать работающим там сотрудникам, какие они. Я с ужасом осмелилась посмотреть на этих деток в пробирках. У семинедельного эмбриона была сформирована головка, маленькие ручки, а вместо ножек был как бы хвостик. Но было видно, что это человеческое существо. А 12-ти недельный эмбрион чуть побольше 7-ми недельного. У него было всё сформировано, только очень маленькое: головка, ручки, ножки. Одна ножка была оторвана от бедра, и я отчётливо видела, что это человек.

Очень переживала от увиденного, но самое страшное – другие медработники забавно смеялись над этими существами.

После такого зрелища я просила Святого Духа, что бы Он вдохновил меня написать стихотворение для защиты нерождённых деток. Стихотворение как бы само написалось без трудностей, слова сами приходили на ум. Затем я его распечатывала и давала читать женщинам, которые приходили на аборт. Помню, как некоторые ругались на меня после прочтения этих строк.

Отработав полгода, я поняла, что не могу там больше находиться и уволилась. С того времени прошло больше 10-ти лет.

Совсем недавно я заболела, и пришлось лечь в больницу. В последний день моего лечения привезли молодую женщину в очень плохом состоянии. Потом я узнала, что у неё рак, всё по женской линии удалено, метастазы пошли на другие органы. И тогда я вспомнила, как это женщина приходила на аборт, и что Господь говорил к ней через это стихотворение, как Он хотел, чтобы она и её нерождённый ребёнок были счастливы, как Он хотел, "каб жыццё не спынілася крахам" ...

### КРИК ДУШИ

Вы прислушайтесь, люди,
Как стонет земля.
Стон, наполненный болью,
Не услышать нельзя.

Это плач нерожденных
Невинных детей,
Умервщленных во чреве
Родных матерей.

Как могла мать родная,
Убийцею стать?
И родного ребенка
На Голгофу послать?

На Голгофу с Христом
Крестный путь он идет.
Спотыкается, плачет,
Смертной казни он ждет.

Слезы льются потоком:
Как же хочется жить!
Маму с папой увидеть
И всю жизнь их любить!

Крик отчаянья рвется,
Но не слышит никто.
Смерть к ребенку крадется,
Рвут на части его.

Беззащитный ребенок,
Изувечен, убит.
Что от тельца осталось,
На помойке лежит.

А теперь посмотри, мать,
На руки свои!
Это руки убийцы,
Эти руки в крови!

*Алина К.*

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**23 ліпеня 2017 г.**

*Мц 13, 24-43*

Божае Валадарства – гэта Валадарства Бога ў нашых сэрцах. Пра тое расказваюць нам прыпавесці аб Божым Валадарстве. Бог прысутны ў нашых сэрцах і валадарыць у іх. Аднак не ўсе адкрылі свае сэрца на Божую любоў. Ёсць і такія, якія паддаюцца на шатанскія спакусы. Для кожнага з нас прыйдзе дзень, калі Бог спытае пра плёны нашага жыцця. Адбудзецца гэта ў дзень нашай смерці. Пакуль жа Бог цярплівa чакае нашай плённасці. А моц плённасці Бога ў нас вельмі вялікая. Гэта толькі на першы погляд здаецца, што Божыя справы ў нас малыя і нязначныя, падобныя да гарчычнага зерня. Тым часам яны, гэтыя справы, маюць агромністую жыццядайную сілу, бо, падмацаваныя Святым Духам, даюць рост.

*– Ці з'яўляецца Езус Панам майго сэрца?*

*– Ці часта аднаўляю ахвяраванне сябе і свайго жыцця Езусу?*

*– Ці шукаю Яго волі?*

*– Ці разважаю над Божым Словам?*

*– Ці карыстаюся духоўным настаўніцтвам, каб лепш распазнаваць Божую волю?*

*– Ці жыву згодна з Яго воляй?*

*– Ці сапраўды Ён мой Валадар?*

*– Ці разумею, што не ўсе людзі прынялі Езуса як свайго Пана?*

*– Ці заахвочваe маё жыццё іншых да аддання сябе ў рукі Езуса?*

*– Ці разумею, што вернасць у малых справах – гэта пачатак вялікіх спраў, якія Бог хоча зрабіць праз мяне?*

*– Ці цаню тое, што, магчыма, нязначнае ў вачах свету, але звязвае мяне з Богам?*

*– Ці веру, што паслухмянасць Богу здольная перамяніць мяне і свет, які вакол мяне?*

**30 ліпеня 2017 г.**

*Мц 13, 44-52*

Адшукаць Бога і Яго Валадарства ў жыцці – гэта значыць, знайсці сапраўдны скарб! Добра, калі чалавек разумее, што Божае Валадарства, як каштоўная перліна, патрабуе шматгадзінных пошукаў. Бывае, для кагосьці гэта стане нечакана знойдзеным скарбам. У любым выпадку для пошукаў такога скарбу варта патраціць час, уменне і многае іншае. Бог, Які хоча валадарыць у маім сэрцы, з'яўляецца прычынай сапраўднай радасці. Менавіта Ён, Які будзе судзіць жывых і памерлых, рассудзіць, хто быў добрай, а хто дрэннай рыбай Яго ўлову. Сёння трэба старацца з радасцю прыняць дар Яго Валадарства і жыць пад добрай рукой Пана, каб у дзень суду быць "добрай" рыбай.

*– Ці цаню я дар веры, які атрымаў?*

*– Ці цаню, што Езус вядзе мяне па жыцці?*

*– Ці іду за Ім?*

*– Ці клапачуся, каб Езус быў маім Валадаром і маім скарбам?*

*– Ці адкідаю ўсё, што перашкаджае мне ісці за Ім?*

*– Ці кожны дзень шукаю Яго прысутнасці і Яго Валадарства ў сабе?*

*– Ці малюся?*

*– Ці адарую Найсвяцейшы Сакрамант?*

*– Ці разважаю над Божым Словам?*

*– Ці шукаю ў ім падказкі для свайго жыцця?*

*– Ці не асуджаю людзей?*

*– Ці дапамагаю іншым знайсці дар веры?*

*– Ці разумею, што людзі без Бога і Яго Валадарства не стануць вартымі вечнага жыцця?*

*– Ці хачу дапамагчы ім знайсці Бога?*

**6 жніўня 2017 г.**

*Мц 17, 1-9*

Езус аб'явіўся сваім вучням у Божай славе. Яны ўбачылі Яго Перамененым. А таксама пачулі словы Айца. Езус – гэта Бог, Якога трэба слухаць! Ён будзе цярпець і будзе забіты, але Уваскрэсне. Бог аб'яўляецца апосталам, каб падрыхтаваць іх да хвілінаў выпрабавання ў час крыжа.

*– Ці памятаю сярод будзённых спраў, што Езус – гэта Бог?*

*– Ці стараюся ў хвіліны выпрабавання больш актыўна ўдзельнічаць у святой Імшы і ўглядацца ў твар Езуса падчас Адарацыі?*

*– Ці шукаю сустрэчы з боскасцю ў час малітвы?*

*– Ці разумею: штодзённасць хрысціяніна святая, бо яна прасякнутая Божай прысутнасцю?*

*– Ці слухаю навуку Езуса?*

*– Ці стаю з даверам побач, як Марыя пад крыжам?*

**13 жніўня 2017 г.**

*Мц 14, 22-33*

Езус ідзе па вадзе і гэтым аб'яўляе, што Ён – Бог і Ён пануе над стыхіямі. Ён з'яўляецца для Касцёла гарантыяй бяспекі і перамогі. Безумоўна, гэта не значыць, што ў жыцці Касцёла і ў нашым жыцці не будзе "ветру", які захоча нам перашкодзіць. Важна, каб мы заўсёды памяталі, што Езус – побач і спяшаецца працягнуць да нас руку. Ён Сын Божы. Нельга сумнявацца ў Ім. Трэба, каб нашым заклікам сталі словы з абраза Езуса Міласэрнага: "Езу, давяраю Табе".

*– Ці памятаю, што мая вера – гэта не ідэалогія, а сувязь з жывым Богам?*

*– Ці веру, што Ён валадарыць над усім светам, у тым ліку і над маім жыццём?*

*– Можа, памылкова думаю, што калі я з Езусам, то ў маім жыцці не будзе спакусаў, выпрабаванняў і цяжкасцяў?*

*– Ці маю адвагу прысвяціць сваё жыццё справам, якія, з пункту гледжання гэтага свету, прагуляныя?*

*– Ці маю адвагу ісці "па вадзе" дарогай міласэрнасці, прабачэння, дапамогі бедным і грэшным?*

*– Ці памятаю, што там, дзе хвалі, вецер, цёмныя глыбіні, Езус стаіць цвёрда і ўпэўнена?*

*– Ці прытуляюся ў хвіліны цяжкасцяў і выпрабаванняў яшчэ больш да Езуса ў спавядніцы, у Эўхарыстыі, у Божым Слове?*

*– Ці давяраю Езусу?*

*– Ці часта малюся "Езу, давяраю Табе"?*

*Разважанні падрыхтаваў* ***кс. Павел Кнурэк*** *Віцебск*

# ПАЗНАВАЙКА





Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл

## Што павінен рабіць сапраўдны сябар?

Адказ на гэтае пытанне запішы ў кожнай зорачцы. Звярні ўвагу! У адной зорачцы змешчаны адзін з прыкладаў.




## Злучы правільна

Перад табою прыказкі і прымаўкі пра сяброўства, якія маюць вельмі глыбокі сэнс. Табе трэба злучыць іх правільна стрэлкамі.

Пасля выканання задання паспрабуй паразважаць над кожным выказваннем.

| | |
|---|---|
| Дружба пазнаецца | даражэй за грошы. |
| Дружба мацней, | але ж і старых не губляй. |
| Сябар | не кідаюцца. |
| Сябрамі | ў няшчасці. |
| Новых сяброў нажывай, | што печ без дроў. |
| Чалавек без сяброў, | чым каменныя сцены. |



## Малітва за сяброў!



Усемагутны Божа! Малюся да Цябе за сваіх сяброў. Пашлі ім, калі ласка, шмат сілаў, здароўя і радасці. Будзь заўсёды з імі ў самыя складаныя хвіліны жыцця. Дай ім сапраўднай адвагі і мужнасці. Учыні, каб мае сябры ўсім сваім сэрцам шчыра верылі ў Цябе. Няхай мая малітва, дарагі Божа, знойдзе кожнага майго сябра.

**Амэн.**

## Даведайся, што кажа цар Саламон пра сяброўства?

Даведаешся, што гаворыцца ў адным з выслоўяў Саламона пра сяброўства, калі выканаеш наступнае заданне.

Літары чырвонага колеру састаўляюць выслоўе пра сяброўства. Таму выпішы іх у таблічку.




Паразважай над гэтым выслоўем. Пра што ў ім гаворыць цар Саламон?

______________________________________________

______________________________________________

## Адгадай першую і апошнюю літару

У кожным слове, якое ідзе зверху ўніз, не хапае першай і апошняй літары. Добра падумай і напішы літары, якіх не хапае. Выканаўшы заданне, ты даведаешся, чым для кожнага з нас з'яўляецца сяброўства.




## Дапамажы сябру!

Дапамажы хлопчыку паднесці заплечнік дзяўчынкі!



*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Ірына Радзевіч***

# Праграма ўрачыстасцяў у гонар Маці Божай Валадаркі азёраў

**У Браславе ўрачыстасці Маці Божай Валадаркі азёраў пройдуць сёлета 18-19 жніўня пад дэвізам "Фацімскі заклік Марыі – новы шанец для сучаснага свету".**

**Пятніца, 18 жніўня.**

**18.00** – св. Імша з удзяленнем сакраманту бежмавання;
**19.30** – канцэрт духоўнай музыкі;
**20.30** – малітва праслаўлення, канферэнцыя;
**22.30** – набажэнства паводле ўсходняга абраду;
**23.30** – ружанцовая малітва, працэсія са свечкамі.

**Субота, 19 жніўня.**

**00.00** – св. Імша перад абразом Маці Божай;
**02.00** – Крыжовы шлях;
03.00 – адарацыя Найсвяцейшага Сакрамантa, набажэнства да Божай Міласэрнасці;
**07.00** – Гадзінкі аб Беззаганным Зачацці Найсвяцейшай Панны Марыі;
**08.00** – св. Імша перад абразом Маці Божай;
**09.00** – ружанцовая малітва;
**11.00** – галоўная ўрачыстая св. Імша на палявым алтары.



## Падзяка святару

**Ксёндз Аляксандр Баран** 16 ліпеня адзначае шостую гадавіну святарства. Ён працаваў у нашай парафіі Святой Марыі Магдалены амаль шэсць гадоў, а цяпер служыць у іншым месцы.

Мы, парафіяне, дзякуем Божаму Провіду, што калісьці даслаў нам гэтага святара! За гады працы ксяндза Аляксандра ў Новалукомлі мы адчулі радасць і шчасце ў малітвах, у прыгожых казаннях святара, у духоўнасці, якая заўсёды адчувалася ў касцёле, у прыгажосці дэкарацый, каторыя з вялікім густам рабіў ксёндз Аляксандр сваімі рукамі. Якая была радасць, калі ўстанавілі разьбяную выяву "Апошняй вячэры"! Сваіх парафіян ксёндз пакінуў пад апекай выявы "Божае вока", каторую ўстанавіў на алтары ў прэзбітэрыі ў апошнія дні свайго прабывання ў парафіі. Яго намаганнямі на скрыжаванні дарог, непадалёку ад гарадскіх могілак, пастаўлены 9-метровы металічны каталіцкі крыж з фігурай распятага Хрыста. Нам, католікам старэйшага пакалення, вялікая радасць і гонар, што вера каталіцкая, якую з дапамогай ксяндза Мечыслава Янчышына мы заклалі там, дзе яе ніколі не было, жыве і развіваецца, што ў Новалукомлі ёсць касцёл, што на падыходзе да горада нас сустракае каталіцкі крыж!

За ўсё зробленае Вамі, дарагі наш ксёндз Аляксандр, мы шчыра дзякуем і нізка кланяемся Вам! Памяць пра Вашую працу ў Новалукомлі застанецца ў пакаленнях, на вякі. Вы заўсёды будзеце ў нашых сэрцах, у нашых малітвах. Няхай Пан Бог адорвае Вас моцным здароўем і ўсімі патрэбнымі ласкамі на новым месцы!

Цяпер у нашай парафіі працуе іншы ксёндз, парафіяльнае жыццё працягваецца і развіваецца.

***З вялікай павагай і любоўю ад усіх парафіян касцёла Святой Марыі Магдалены, Алена Юркайць***

## Пілігрымка ў Расію на матацыкле

**4 жніўня 2017 года ў Браславе распачнецца II Пілігрымка матацыклістаў да расійскіх пакутнікаў.**

**14.00** – збор каля касцёла ў Браславе. Кава, пачастунак.
**15.15** – малітва ў касцёле за памерлых жыхароў Расіі і за загінулых матацыклістаў.
**15.30** – выезд.
**17.30** – прывітанне матацыклістаў.
**18.00** – св. Імша. Пасілак для матацыклістаў.

**Кантактная інфармацыя па тэл: +375 29 577 00 38 *(кс. Уладзімір)*.**

Арганізатары просяць загадзя паведаміць пра сваю прысутнасць.



**Дарагія сябры!**

**Ёсць магчымасць дапамагчы газеце "Каталіцкі Веснік" фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам усяго 2 рублі, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!**

**Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Дасланць у якасці ахвяравання 2 рублі можна, зрабіўшы наступнае:**

1. **Адпраўце USSD-запыт наступнага зместу:** ***363*375295105172*2#**
2. **Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.**
3. **Дашліце USSD-запыт наступнага зместу:** *363*[код пацвярджэння]#
4. **Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумара 364. З балансу Вашага тэлефона будуць спісаныя 2 рублі.**

**Увага!**

**Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 2 рублі. Каб даслаць большую суму, неабходна паўтарыць аперацыю.**

**Рэдакцыя можа атрымаць не больш за 10 рублёў за каляндарныя суткі. Калі Вам прыйшло паведамленне пра памылку, калі ласка, дашліце ахвяраванне яшчэ раз або паўтарыце яго на наступны дзень.**

**Вялікі дзякуй за ахвяраванні на падтрымку газеты "Каталіцкі Веснік"! За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша. Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!**

***Рэдакцыя газеты "Каталіцкі Веснік"***

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!** Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Лія Мацюшонак** *(Прошкава)*, **Эмма Козел** *(Докшыцы)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Тэрэса Варанецкая** *(Мёры)*, **Ядвіга Кавалёнак** *(Васількова)*, **Ядвіга Казлоўская** *(Мяжаны)*, **Драневіч Г.М.** *(Малая Сырмеж)*, **Даната Пачкоўская** *(Савуткі)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Вацлава Скрага** *(Падсвілле)*, **Валянціна Віткоўская** *(Шудаўцы)*, **Леанід Грыбач** *(Гомель)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Падсвілле)*, **Ірына Кончыц** *(Гомель)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Часлава Лаўрыновіч** *(Мосар)*, **ахвярадаўцы ў Будславе.**

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"***

## Ці ведаеце Вы гісторыю свайго касцёла, сваёй парафіі?

**У кожнай святыні і ў кожнай парафіі ёсць свая цікавая, багатая на розныя падзеі гісторыя. У гэтым апытанні чытачы "Каталіцкага Весніка" адказалі, ці ведаюць яны гісторыю свайго касцёла?**

**Вынікі апытання на сайце Catholicnews.by і ў сацыяльных сетках: Facebook, Укантакце, Аднакласнікі:**

- так, ведаю – 177 адказаў;
- не, але хацелася б даведацца – 27 адказаў;
- не ведаю, мяне гэта не цікавіць – 6 адказаў;

**Усяго – 210 адказаў.**



*Падрыхтавала* ***Ірына Радзевіч***

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі
**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"
**Выдавец:** рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і зверстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 4564

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3000 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 19.07.2017 г. у 11.00

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь